КУЛЬТУРА ▸ ГРАМАДСТВА ▸ ЭКАНОМІКА ▸
ЛЮДЗІ ▸ ПАДЗЕІ ▸ ФАКТЫ

◂ № 28 (349) ◂ 19 ліпеня ◂ 2013 г.
www.novychas.info

# Новы Час



ІГАР ЛОГВІНАЎ

Стар. 6

### ЗЛОМ ЗА ДАБРО

Ніводная добрая справа не застанецца беспакаранай. Менавіта такім дэвізам кіруюцца ўлады Гродзенскай вобласці. На Аляксея Шчадрова, які ў вёсцы Аляксандраўка Шчучынскага раёна арганізаваў прытулак для бяздомных, заведзеная справа па артыкуле 193-1 КК

Стар. 4

### ПРАВА НА РЫТУАЛЬНАЕ ЗАБОЙСТВА

Польскі Сейм прыняў папраўку ў адзін з параграфаў Закона аб ахове жывёл. Згодна з ёй, забараняецца рытуальнае ахвяраванне жывёл без аглушэння

Стар. 12

### ПОЛЬСКІЯ КАЛАНІЯЛЬНЫЯ МАРЫ

Стар. 14

ISSN 2218-2144
9 772218 214401 10028






# ПАДАТАК НА БЕДНАСЦЬ

Сяргей ПУЛЬША

**У дзяржавы зноў скончыліся грошы. Калі ўзяць іх няма адкуль, то ўзнікаюць думкі забраць іх у самых бедных. Мы чулі шмат ідэй пра тое, каб браць дадатковыя падаткі з бяздзетных, з прастытутак, з алкаголікаў. А зараз прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч вынайшаў яшчэ адзін падатак — з беспрацоўных.**

Паводле словаў Мясніковіча, у Беларусі каля 445 тысяч чалавек працаздольнага насельніцтва нідзе не працуюць. Гэтыя людзі не ўносяць ніякага ўкладу ў развіццё эканомікі і пры гэтым карыстаюцца сацыяльнымі выгодамі. «Сітуацыю трэба выпраўляць. Адзін са спосабаў — увядзенне падатку з непрацуючых», — сказаў Мясніковіч.

Варта адзначыць, што пра барацьбу з дармаедствам розныя афіцыйныя асобы казалі неаднаразова. «Як рэагаваць у рынкавых умовах, я пакуль яшчэ не ведаю, але мы абавязкова спытаем кожнага беспрацоўнага, чаму ён не працуе», — зазначаў, у прыватнасці, Аляксандр Лукашэнка. Старшыня Мінгарвыканкаму Мікалай Ладуцька прапаноўваў прыцягваць «утрыманцаў» да грамадскіх прац: упарадкавання газонаў, ліквідацыі надпісаў на сценах, добраўпарадкавання тэрыторый. Дэпутат Палаты прадстаўнікоў Аляксандр Ярашэвіч меркаваў караць грамадзян за «дармаедства» ў крымінальным парадку, а ягоная калежанка Вольга Палітыка заклікае «праявіць грамадзянскую свядомасць» і адмовіцца ад паслуг незарэгістраваных у якасці ІП прыватнікаў. Кшталту, афіцыйна людзі нідзе не працуюць, а дзяржава іх утрымлівае, хоць яны і зарабляюць сабе на жыццё.

Прапанова Мясніковіча выклікала шэраг з'едлівых каментараў экспертаў. Былы міністр працы Аляксандр Сасноў прапанаваў браць падатак «на паветра», і найперш абкласці гэтым падаткам урад, які знаходзіцца на ўтрыманні дзяржавы, а значыць, найбольш адказны за стварэнне бачнасці працы. Лідар прафсаюзу РЭП Генадзь Фядыніч таксама забаўляецца: як браць падатак з таго, хто не мае грошай? Абкласці падаткам дапамогу па беспрацоўі, агульны памер якой складае 8 долараў на месяц? Альбо чым браць падатак з тых самых «асацыяльных элементаў», якія добраўпарадкуюць тэрыторыю альбо ездзяць у калгасы збіраць ураджай за тое, каб іх там пакармілі і далі з сабою садавіны-гародніны? Натурай?

З дзяржаўнага боку, нават дзіўна, што Мясніковіч заклапаціўся праблемай беспрацоўя і назваў лічбу ў 445 тысяч чалавек. Бо, па дадзеных Міністэрства працы і сацыяльнай абароны, на 1 ліпеня 2013 года на ўліку па беспрацоўі ў службе занятасці Беларусі было зарэгістравана 22,6 тысячы чалавек.

Яшчэ адно дзіва, гэта тое, што беспрацоўныя ўвогуле існуюць. У той жа справаздачы Мінпрацы канстатуецца, што на 12 ліпеня наймальнікі заявілі аб наяўнасці 72,7 тысячы свабодных працоўных месцаў, з іх 70,4% — для рабочых, 29,6% — для спецыялістаў і служачых. Гэта ў тры разы больш, чым афіцыйна зарэгістраваных беспрацоўных.

А вось з боку «недзяржаўнага» зразумела, што «падатак на беспрацоўе» разлічаны на тых, хто працуе ў «шэрых сферах эканомікі» альбо за мяжой. Гэтым тлумачыцца і лічба Мясніковіча. Паводле падлікаў незалежных экспертаў, у нас ад 600 тысяч да 1 мільёна часова ці стала працуюць за мяжой, часцей — у Расіі. Гэта хаця б супастаўляльна з лічбамі Мясніковіча.

Усе адмыслоўцы ў адзін голас кажуць: «клопат» Мясніковіча скіраваны менавіта на гэтых людзей. Але скіраваны ён не ў тым, каб вырашыць гэтую праблему, а ў тым, каб, па старой звычцы, «усё ўзяць і падзяліць».

Сапраўды, у тым, што чалавек не працуе зусім альбо працуе за мяжой, вінаватая дзяржава. Менавіта яна не забяспечвае мінімальную колькасць працоўных месцаў. Да таго ж, як адзначаюць эксперты, у Беларусі практычна знішчаная сістэма перападрыхтоўкі кадраў. Для таго, каб чалавек пачаў працаваць, трэба забяспечыць яго новай, запатрабаванай прафесіяй.

Не забяспечвае дзяржава і нейкі «старт» нанова вывучанаму спецыялісту. Шмат хто ў вакансіях піша: «з досведам працы». Але дзе гэты досвед возьме новы спецыяліст, які толькі-толькі скончыў курсы перападрыхтоўкі? Гэта яшчэ адна праблема, пра якую дзяржава не клапоціцца.

Ну і, канешне, праблема заробку. Калі адзін з вышэйшых дзяржаўных чыноўнікаў кажа пра падатак з беспрацоўных, то значыць, што ў дзяржаве няма грошай на выплату заробкаў. Але нават беспрацоўны без заробку працаваць не будзе.

«Праедзьце па Мінску, пагледзіце на шматлікія будоўлі — краны стаяць і не працуюць. Гэта таму, што працоўныя з'ехалі ў Расію, дзе ім плацяць на парадак больш. На тыя вакансіі, якія ёсць, з заробкам тры мільёны ў месяц, проста немагчыма пражыць. Дык забяспечце людзей нармальным заробкам! Хай ён будзе нават на 20% ніжэй расійскага — працоўныя ў Беларусь вернуцца», — разважае Фядыніч.

Зыходзячы з той ж справаздачы Мінпрацы, удзельная вага вакансій з заробкам да двух мільёнаў рублёў складае 29,2%, ад двух да трох мільёнаў — 32,1%, да чатырох мільёнаў — 22%. А між тым, чатыры мільёны цяпер складаюць крыху больш за 450 долараў.

Гэта значыць, што 83,3% прапанаваных на рынку працы вакансій не дацягваюць да «сярэдняй заработнай платы па краіне ў 500 долараў». Не кажучы ўжо пра амбітныя планы ўрада давесці сярэдні заробак у гэтым годзе да 600, а тое і да 700 долараў у эквіваленце.

Без карэннай перабудовы працоўнай сістэмы ўрад атрымлівае адна ў замкнёным коле. З аднаго боку, браць падатак з беспрацоўных — амаль немагчыма. З другога — стварэць з беспрацоўнага працуючага таксама не выходзіць: заробкі вельмі нізкія, каб за іх працаваць. З трэцяга боку, сістэма перападрыхтоўкі кадраў толькі паскорыць выезд працоўных за мяжу: той, хто атрымае дэфіцытную спецыяльнасць, адразу з'едзе туды, дзе больш плацяць. Выйсце — у стварэнні новых эфектыўных вытворчасцяў. А для гэтага павінна быць мадэрнізацыя эканомікі. А змяняць на гэтым полі «правілы гульні» дзяржава ўжо не хоча па палітычных матывах. Для яе хай усе будуць «роўныя ў беднасці», — толькі б не патрабавалі большага.

ПАЛІТВЯЗНІ

## ЛІСТ СТАТКЕВІЧА — У ПРАКУРАТУРЫ

**Як паведаміла Марына Адамовіч, праблемы з ліставаннем узнікалі шмат разоў і раней. Але тады лісты Мікалая Статкевіча не праходзілі цэнзуру, а лісты ад яго адрасатаў знікалі ці, у выпадку, калі ліст быў замоўленым, палітвязень атрымліваў толькі пусты канверт.**

«Апошні з атрыманых ліст мяне здзівіў, — расказала Марына. — У ім Мікалай паведаміў, што яго папярэдні ліст быў не проста канфіскаваны, а накіраваны ў абласную пракуратуру разам з яго паказаннямі аб сітуацыі ў Шклоўскай калоніі, пра якую ён напісаў у гэтым лісце. Цікава, што б гэта значыла? Ці то адміністрацыя турмы баіцца, каб інфармацыя пра тое, што адбываецца ва ўстановах пенітэнцыярнай сістэмы, выйшла на волю? Ці то, наадварот, вырашылі праявіць пільнасць і «прасігналізаваць» аб выяўленых парушэннях? То можна было б копію ліста скарыстаць. Таму схіляюся да першага».

Жанчына не ведае пра змест ліста, але кажа, што няцяжка здагадацца, што расказаць Мікалаю Статкевічу было пра што.

«Я вельмі добра памятаю, што там адбывалася акурат два гады таму, калі пасля прыезду Лукашэнкі ў Шклоў і яго знакамітай прапановы «палітычным» «папрасіцца» там пачаўся страшэнны ціск на іх. Таму, думаю, напісаць Міколу было пра што. Спадзяюся, што ўтаіць гэта ўжо немагчыма, нават калі будзе сканфіскаваны яшчэ дзясятак лістоў», — адзначае Марына Адамовіч.

Нагадаем, што начальнік калоніі №17 палкоўнік Ермаліцкі, яго намеснік Ягулеўскі і яшчэ два супрацоўнікі, якія непасрэдна вінаватыя ў катаваннях «палітычных», амаль два гады таму былі ўнесеныя ў спіс неўязных у Еўрапейскі Саюз.

Паводле statkevich.org

АКЦЫЯ

## ПІКЕТ КАЛЯ РАСІЙСКАЙ АМБАСАДЫ

Генадзь КЕСНЕР

**Партыя БНФ плануе 29 ліпеня ў Мінску правесці пікет каля будынку амбасады Расійскай Федэрацыі на знак пратэсту супраць планаў размяшчэння на тэрыторыі Беларусі расійскай ваеннай авіяцыйнай базы. Адпаведная заяўка ўжо пададзена ў сталічны выканаўчы камітэт.**

Як адзначыў у каментары «Новаму часу» старшыня Партыі БНФ Аляксей Янукевіч, калі ў Беларусі будзе размешчана згаданая база, то ўпершыню з моманту аднаўлення беларускай незалежнасці з'явіцца факт, калі замежныя вайскоўцы будуць стала размешчаныя на тэрыторыі нашай краіны без ясных і зразумелых умоваў, як і калі яны могуць быць адсюль выведзеныя.

«Гэта клапоціць нас найбольш. Бо, як мы бачым на прыкладзе іншых краінаў, у тым ліку і на прыкладзе тых вайсковых аб'ектаў Расійскай Федэрацыі, што сёння месцяцца ў Беларусі, рускія абсалютна не хочуць выводзіць свае вайсковыя базы з чужой тэрыторыі пасля таго, як ім атрымалася іх там размясціць, — адзначае палітык. — І кожная такая база істотна павялічвае небяспеку для грамадзян Беларусі. Мы лічым, што размяшчэнне расійскай вайсковай базы катэгарычна супярэчыць нацыянальным інтарэсам Беларусі, беларускай Канстытуцыі, адпаведна, не можа адбыцца ні пры якіх умовах. То бок, не можа быць ніякіх мэтаў, якія б апраўдалі размяшчэнне расійскай вайсковай базы на нашай тэрыторыі».

Заяўка на правядзенне акцыі ўжо пададзеная ў сталічны выканкам, дата правядзення меркаванага мерапрыемства — панядзелак, 29 ліпеня.

«Апошнія гады Мінгарвыканкам у пераважнай большасці адмаўляе ў правядзенні любых пратэстных мерапрыемстваў. Аднак я думаю, што размяшчэнне расійскай вайсковай базы — гэта занадта далікатнае пытанне, каб рабіць выгляд, што няма ніякай грамадскай рэакцыі. Таму я б на сто адсоткаў не браўся прадказваць, якое рашэнне прыме Мінгарвыканкам. Няма сумневаў, што сапраўднае рашэнне будзе прымацца ў Адміністрацыі прэзідэнта, а Мінгарвыканкам будзе толькі яго афармляць», — упэўнены суразмоўца.

Аляксей Янукевіч заяўляе, што нават у выпадку адмовы ў правядзенні пікетавання расійскай амбасады тэма размяшчэння расійскай ваеннай авіяцыйнай базы ў Беларусі не будзе пакінутая на самацёк.

На маю думку, выключаць магчымасць дазвольнага рашэння Мінгарвыканкама таксама не варта. Беларуская ўлада ў дадзеным выпадку можа прадэманстраваць Маскве, што ёй нялёгка ў гэтай сітуацыі, што ў Беларусі ёсць тыя, хто выступае супраць размяшчэння расійскіх знішчальнікаў у Беларусі на сталай аснове. Тым больш у фармаце расійскай вайсковай авіябазы.

А ўсе непрыемнасці і высілкі мусяць быць аплачаныя. Натуральна, з расійскай казны. А ў тым, што афіцыйны Мінск вельмі ўдала можа таргавацца з Масквой па любых пытаннях, за апошнія дзевятнаццаць гадоў змаглі пераканацца, бадай, усе.

ЛІСТ

## ЛАДУЦЬКА ЎРАТУЕ КУРАПАТЫ?

Марат ГАРАВЫ

**Дзяржава павінна выканаць свае абавязкі па ахове Курапатаў. Пра гэта НЧ заявіў каардынатар грамадскай ініцыятывы «За ўратаванне мемарыялу Курапаты» Уладзімір РамаНоўскі.**

17 ліпеня разам з другім каардынатарам ініцыятывы Ганнай Шапуцькай яны накіравалі ліст старшыні Мінскага гарвыканкама Мікалаю Ладуцьку.

У лісце грамадскія актывісты просяць Ладуцьку прыняць іх падчас асабістага прыёму грамадзян для разгляду пытанняў захавання гісторыка-культурнай каштоўнасці міжнароднага значэння «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсій 1930–1940-х гадоў ва ўрочышчы Курапаты».

Гаворка ідзе пра мажлівасць матэрыяльнай і фінансавай падтрымкі УП «Мінская лесапаркавая гаспадарка» для санітарнай ачысткі ляснога масіву ў Курапатах плошчай каля 30 гектараў.

Мажлівасць вызначэння аднаго гаспадарчага суб'екта — уладальніка мемарыялу замест цяперашніх двух — «Мінскай птушкафабрыкі №1» (зямля) і «Мінскай лесапаркавай гаспадаркі» (лясны масіў).

Аўтары ліста паведамляюць, што з 25 траўня па ўзгадненні з Мінскім райвыканкамам ініцыятыва на валанцёрскай аснове ўручную вядзе санітарную ачыстку найбольш забруджанай часткі ўрочышча плошчаю каля 0,3 гектара. Талака будзе праводзіцца да кастрычніка і прымеркавана да 25-годдзя адкрыцця Курапатаў і 25-годдзя пастановы «Аб увекавечанні памяці ахвяраў масавых рэпрэсій 1937–1941 гадоў у лясным масіве Курапаты». У адрозненне ад аналагічных мемарыялаў «Бутава» (Масква), «Быкаўня» (Кіеў) і «Катынь» (Смаленск), Курапаты знаходзяцца ў даволі сумным стане, гаворыцца ў лісце. Яго аўтары нагадваюць, што сітуацыя з Курапатамі абмяркоўвалася з удзелам актывістаў ініцыятывы ў шэрагу дзяржструктураў, у тым ліку ў Міністэрстве культуры, Мінаблвыканкаме і Мінрайвыканкаме.

Падобны ліст накіраваны старшыні Мінскага аблвыканкама Барысу Батуру, паколькі Курапаты знаходзяцца на тэрыторыі сталіцы і Мінскай вобласці. У лісце да Батуры грамадскія актывісты просяць матэрыяльна і фінансава падтрымаць Мінскі райвыканкам для санітарнай ачысткі Курапатаў, а таксама вырашыць пытанне пра прызначэнне аднаго ўладальніка мемарыялу.

Як падкрэсліў Раманоўскі, паколькі Курапаты ўваходзяць у Дзяржспіс гісторыка-культурных каштоўнасцяў, у першую чаргу менавіта дзяржава павінна клапаціцца пра лёс мемарыялу. «Гэта трэба для таго, каб забяспечыць свабодны падыход да кожнай з больш за 500 западзін — магчымых пахаванняў бязвінных ахвяраў. Каб сіламі адной грамадскасці ўручную ачысціць Курапаты, патрабуецца вельмі шмат часу. А для таго, каб апаратыўна выканаць гэтую працу, дзяржава павінна выдзеліць каля 1 мільёна долараў ЗША. Вось чаму мы і звярнуліся да Ладуцькі і Батуры», — сказаў Раманоўскі.

АДУКАЦЫЯ

## ГАЛОЎНАЕ — АКРЭСЛІЦЬ ТРЭНД

Аксана КОЛБ

**17 ліпеня ў канферэнц-залі гатэлю з сімвалічнай для падзеі назвай «Еўропа» была прэзентавана «Белая кніга», прысвечаная перспектыве ўступлення Беларусі ў Балонскі працэс.**

«Белая кніга» — вынік калектыўнай працы экспертаў Грамадскага Балонскага камітэта, які ўяўляе сабой пляцоўку для камунікацыі і каардынацыі высілкаў розных НДА і незалежных экспертаў, для садзейнічання рэфармаванню беларускай вышэйшай адукацыі.

Аўтары кнігі аналізуюць сучасны стан беларускай вышэйшай адукацыі і прапануюць змены, якія наблізяць беларускую адукацыю да еўрапейскага ўзроўню. Пра гэта падчас прэзентацыі распавёў адзін з аўтараў, чалец Грамадскага Балонскага камітэта Беларусі Уладзімір Дунаеў.

Аўтараў «Белай кнігі» аб'ядноўвае перакананне ў тым, што для ўсіх, хто належыць ці належыць да ўніверсітэцкай супольнасці, цалкам натуральна падзяляць еўрапейскія акадэмічныя каштоўнасці. На базе такіх каштоўнасцяў, як акадэмічная свабода і ўніверсітэцкая аўтаномія, можна дамагчыся рэальнага падвышэння якасці і інтэрнацыяналізацыі беларускай вышэйшай адукацыі.

«Белая кніга» — гэта яшчэ і збор рэкамендацый па зменах у Кодэкс пра адукацыю, якія дазволяць на нарматыўна-заканадаўчым узроўні не толькі зняць прэтэнзіі па трох ключавых пытаннях, якія перашкаджаюць уступленню Беларусі ў Еўрапейскі працэс вышэйшай адукацыі (ЕПВА), але і забяспечаць перадумовы значнага падвышэння якасці падрыхтоўкі адмыслоўцаў.

У 2012 годзе спроба ўступлення Беларусі ў Балонскі працэс скончылася няўдачай. Саміт міністраў адукацыі краін-чальцоў ЕПВА не стаў разглядаць заяўку беларускага Міністэрства адукацыі з-за неадпаведнасці нашай краіны патрабаванням да кандыдатаў на далучэнне да Балонскага працэсу. Падкрэслім, што такое адбылося ўпершыню ў гісторыі Балонскага камітэта. Упершыню краіне, якая падала заяўку, адмовілі.

У адказе Балонскага сакратарыята адзначалася, што галоўнай перашкодай на шляху да ЕПВА з'яўляецца канфлікт беларускіх і еўрапейскіх акадэмічных каштоўнасцяў. Найперш, гэта датычыцца становішча спраў з акадэмічнай свабодай, узроўнем іституцыянальнай аўтаноміі і ўдзелам студэнтаў у кіраванні вышэйшай адукацыяй. Але вырашана даць Беларусі час для мадэрнізацыі вышэйшай школы. Зноў наша заяўка будзе разгляджана ў 2015 годзе.

Як бачым, фактычна асноўныя прэтэнзіі ЕПВА да беларускай вышэйшай адукацыі тычацца сістэмы яе кіравання. Яна ў нас аўтарытарная. Сістэма сабрала ўсё горшае з савецкіх часоў і дадала беларускія асаблівасці ў выглядзе задзейнічання адукацыйнай сістэмы ў палітычных працэсах. Таму наўрад ці трэба чакаць, што да 2015 года ў нас будуць сапраўдныя акадэмічная свабода, інстытуцыянальная аўтаномія і студэнцкае самакіраванне. Як жа ж тады выбары праводзіць? Дарэчы, на сённяшні дзень узровень беларускай акадэмічнай свабоды — 10 працэнтаў (для параўнання, у Польшчы гэта — 70%, а ў Эстоніі — 92%).

Безумоўна, беларускія ўлады зробяць адпаведныя змены на заканадаўчым узроўні, каб хаця б фармальна адпавядаць крытэрам. Але калі раптам заўтра па законе рэктараў зноў будуць абіраць, вузы атрымаюць фінансавую самастойнасць, а студэнты будуць актыўна ўдзельнічаць у жыцці вузаў — гэта не значыць, што дэ-факта зменіцца сістэма кіравання вышэйшай адукацыяй.

Гэта разумеюць і аўтары «Белай кнігі». «Мы не такія наіўныя аптымісты, якія не разумеюць, што тыя задачы, якія паставілі перад сабой, лёгка рэалізаваць, — сцвярджае Уладзімір Дунаеў. — Нават калі 30 працэнтаў з таго, што мы прапануем, будзе прынята, гэта будзе для нас вялікі поспех. Няхай гэтыя змены пакуль будуць існаваць дэ-юрэ. Трэба спрабаваць зрабіць усё магчымае для таго, каб змяніць сітуацыю. Трэба акрэсліць трэнд».

«Мы будзем абапірацца на тых, хто зацікаўлены ў гэтых зменах. Працадаўцы, студэнты і іх бацькі — усе яны жадаюць, каб якасць адукацыі палепшылася. Не заўсёды гэту цікавасць яны могуць агучыць. Мы павінны дапамагчы ім аб'яднацца», — адзначыў Дунаеў.

## ТЫДНЁВЫ АГЛЯД



# МЯСНІКОВІЧ — ПЕРАЕМНІК ЛУКАШЭНКІ?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Падаецца, што ў Беларусі вызначыўся новы «цэнтр сілы». Калі Аляксандр Рыгоравіч раптам раздумае быць прэзідэнтам, пераемнік для яго ўжо знойдзены. Гэта — сённяшні прэм'ер Міхаіл Мясніковіч.**

Раней рахманы і літасцівы прэм'ер быў такім «добрым хлопчыкам» у вышэйшым кіраўніцтве. Але апошнім годам ён відавочна капіруе стыль і манеру паводзінаў кіраўніка дзяржавы. Раней пачуць «разнос» ад Мясніковіча было справай сенсацыйнай, зараз гэта робіцца ледзьве не на кожным кроку. Здаецца, як толькі Лукашэнка некуды знікае, замест яго застаецца «грамавержац» прэм'ер.

Вось і зараз Лукашэнка з'ехаў у Кітай, а Мясніковіч наладзіў чарговы разнос губернатару Віцебскай вобласці Аляксандру Касінцу. Гэта адбылося на выязным пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў Беларусі па пытанні выканання аблвыканкамам прагнозных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця ў бягучым годзе.

«Эканамічная эфектыўнасць — гэта галоўнае. Менавіта на эканамічную эфектыўнасць і заможнасць неабходна звяртаць увагу перш за ўсё», — сказаў Мясніковіч і дадаў, што індыкатарам тут выступаюць фінансавыя вынікі прадпрыемстваў ад рэалізацыі прадукцыі. Па словах прэм'ера, у Віцебскай вобласці адзначаюцца самыя нізкія тэмпы ўводу жылля па краіне, па выніках пяці месяцаў не выкананы дзве трацiны асноўных паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця. Сістэмнага разгляду патрабуе пытанне сельскай гаспадаркі, фінансавай палітыкі, якая праводзіцца ў Віцебскай вобласці на месцах. Адзначаецца высокая праблемная запазычанасць па крэдытах, выдадзеных банкамі Віцебскай вобласці.

Мясніковіч таксама, які і Лукашэнка, паказаў, наколькі глыбока ён разбіраецца ў справе. Паводле яго слоў, у Беларусі не трэба вырабляць школьную мэблю, мадэрнізаваць птушкафабрыкі або паляпшаць тавары выгляд сельгаспрадукцыі за кошт сродкаў інавацыйных фондаў. «Гэта далёка не тыя праекты, якія з'яўляюцца пятым ці шостым тэхналагічным укладам, як таго патрабуе Лукашэнка», — заявіў Мясніковіч, крытыкуючы кіраўніцтва Віцебскай вобласці за неэфектыўнае выкарыстанне рэсурсаў рэгіянальнага інавацыйнага фонду.

Усё — выключна ў стылі Аляксандра Рыгоравіча. Моцная рука, веданне ўсяго і ўсіх, і выгляд на тое, што Мясніковіч больш за губернатара ведае, што трэба Віцебскай вобласці. Прынамсі, ведае, што не патрэбная школьная мэбля. Як у анекдоце, калі чыноўнікі ўкладаюць грошы не ў школы, а ў турмы, таму што ў школу яны больш гарантавана не трапяць.

Але несалодка прэм'еру прыйдзецца, калі небяспеку пачуе сам Лукашэнка. Прэм'ер, канешне, можа крытыкаваць, але трэба ж і мяжу ведаць.

Праўда, мяжа можа быць рознай. Прыкладам, хутка на «сацыяльную дзяржаву» будуць працаваць не толькі дзяржаўныя прадпрыемствы, але і прыватныя. Усіх загоняць у «кола роўнасці» і прымусяць быць больш сціплымі. Напрыклад, ужо з 1 верасня дырэктарам прыватных прадпрыемстваў забаронена мець высокую зарплату, а выплата ім дадатковых бонусаў і прэмій увязваецца не з чым-небудзь, а з выкананнем прагнозных паказчыкаў росту. Адпаведны перагляд «сацыяльна справядлівага» налічэння зарплаты зацверджаны пастановай Саўміна № 597 ад 8 ліпеня 2013.

«Каэфіцыент суадносін сярэдняй заработнай платы кіраўніка камерцыйнай арганізацыі незалежна ад формы ўласнасці і сярэдняй заработнай платы па арганізацыі ў цэлым не можа перавышаць 8,0», — гаворыцца ў дакуменце. Пастановай упершыню ў беларускай практыцы ўведзены прагнозы паказчык для прыватных прадпрыемстваў, ад выканання якога залежаць бонусы і прэміі кіраўніка.

Для дырэктараў камерцыйных прадпрыемстваў з доляй дзяржавы каэфіцыент суадносін сярэдняй заработнай платы зніжаецца з 8,0 да 4,0 у выпадку невыканання па выніках паўгоддзя двух і больш паказчыкаў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Так што зараз паказчыкі прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця з'яўляюцца галоўнай падставай для атрымання заробку.

А прагнозы ў нас становяцца больш рэалістычнымі. Праўда, гэта тычыцца пакуль толькі спорту.

Міністр спорту і турызму Аляксандр Шамко ў інтэрв'ю «Прэсболу» прызнаўся, што чакае ад нацыянальнай зборнай заваёвы толькі пяці медалёў на алімпіядзе ў Сочы. «Трэба імкнуцца да максімальнага выніку. Калі ўсё атрымаецца, то пяць медалёў — гэта аб'ектыўныя чаканні. Трэба разумець, што да атлетаў заўсёды завышаныя патрабаванні, ад іх чакаюць многага. Усім хочацца ўбачыць беларускі сцяг падчас цырымоніі ўзнагароджання, пачуць гімн. У нас павінна выпрацоўвацца псіхалогія пераможцы. Сёння ўсе разумеюць адказнасць за сродкі, якія ўкладае дзяржава ў падрыхтоўку спартсменаў. Іх вынік — прэстыж нашай краіны. А планы бяруцца не з галавы. Абараняючы атэстацыю, трэнеры прагназуюць пэўны вынік. Яны самі ўсталёўваюць планку», — сказаў Аляксандр Шамко.

Але што скажа кіраўнік НАК Аляксандр Лукашэнка? Ці не атрымаецца, што пяць — гэта замала, і хай будзе 25? Гэта мы паглядзім бліжэй да Алімпіяды.

Пакуль што ў нас іншая праблема, і самая істотная — барацьба за ўраджай. І з гэтай задачай ніякая Алімпіяда непараўнальная, на яе можна кінуць усе сродкі. Напрыклад, беларускія ўлады на 50% (да 600 мільярдаў рублёў) павялічылі фінансаванне закупак галуча-змазачных матэрыялаў для правядзення ўборачных і восеньскіх палявых работ. Калі раней Белаграпрамбанк павінен быў даць з 1 чэрвеня да 30 верасня 2013 года крэдыты на суму 400 мільярдаў рублёў, дык зараз ён павінен за кошт уласных рэсурсаў дадаць дзвесце мільярдаў.

А вось ці вернуцца гэтыя грошы банку — вялікая праблема. У Беларусі ў I паўгоддзі 2013-га рост сельгасвытворчасці запаволіўся да 1,5% у гадавым выражэнні ў параўнанні з ростам на 5,1% за аналагічны перыяд 2012 года, паведамляе Белстат. Значыць, не тое, што ў сельскай гаспадарцы няма грошай — няма прадукцыі, якую б можна было б прадаць і разлічыцца з пазыкамі.

## ФІГУРЫ ТЫДНЯ

### АНДРЭЙ ГАЙДУКОЎ



Прызнаны вінаватым у спробах усталяваць кантакты з замежнымі спецслужбамі Андрэй Гайдукоў абскардзіў прысуд Віцебскага абласнога суда. Скаргу плануюць накіраваць у Вярхоўны суд у канцы наступнага тыдня.

У Віцебскім абласным судзе паведамілі, што касацыйная скарга Гайдукова паступіла, і з ёй зараз знаёміцца дзяржабвінаваўца. «Раней да нас паступілі скаргі на прысуд двух адвакатаў Гайдукова. Пасля таго, як са скаргамі азнаёмяцца ўдзельнікі працэсу, у дадзеным выпадку пракурор, дакументы будуць накіраваныя на разгляд у Вярхоўны суд Беларусі», — адзначылі ў судзе, удакладніўшы, што, «хутчэй за ўсё, гэта адбудзецца ў канцы наступнага тыдня».

Нагадаем, Гайдукоў быў затрыманы 8 лістападзе 2012 супрацоўнікамі КДБ па падазрэнні ў зборы інфармацыі па заданні замежнай разведкі і дзяржаўнай здрадзе. Гайдукоў асуджаны Віцебскім абласным судом да 1 года і 6 месяцаў пазбаўлення волі з адбываннем пакарання ў калоніі агульнага рэжыму. Ён прызнаны судом нібыта «вінаватым у спробах устанаўлення кантактаў з супрацоўнікамі замежнай спецслужбы без прыкмет дзяржаўнай здрады».

Разгляд справы праходзіў у закрытым рэжыме. Праваабаронцы Беларусі лічаць Гайдукова палітычным зняволеным.

### ШЫМОН ПЕРЭС



Прэзідэнт Ізраіля Шымон Перэс нарэшце атрымаў пасведчанне аб нараджэнні, якое канстатуе факт яго з'яўлення на свет у беларускай вёсцы Вішнева. Страшна падумаць — гэтага дакумента прэзідэнт Ізраіля чакаў практычна 90 гадоў!

Памятнае пасведчанне аб нараджэнні Шымону Перэсу ўручылі ў рэзідэнцыі кіраўніка ізраільскай дзяржавы начальнік упраўлення Афрыкі і Блізкага Усходу МЗС Беларусі Ігар Ляшчэня, пры ўдзеле ганаровага консула Беларусі ў Дзяржаве Ізраіль Анатоля Моткіна.

Ігар Ляшчэня падкрэсліў, што прэзідэнта Ізраіля заўсёды рады бачыць на яго малой радзіме.

Выдача Перэсу памятнага пасведчання аб нараджэнні стала адным з мерапрыемстваў, арганізаваных у Беларусі ў сувязі з маючым адбыцца 90-годдзем знакамітага земляка. Раней, 29 траўня, у Вішневе ў прысутнасці дачкі кіраўніка ізраільскай дзяржавы Цвіі Вальд была адкрыта памятная дошка на доме, у якім нарадзіўся і вырас прэзідэнт Ізраіля. У той жа дзень у Вішневе адбылося адкрыццё спецыяльнай фотавыставы «Шымон Перэс: шлях ад Віленскай вуліцы ў Вішневе на Прэзідэнцкую вуліцу ў Ерусаліме».

### МАРЫНА ЛІТВІНЧУК



Сапраўднай зоркай Універсіяды ў Казані стала беларуска Марына Літвінчук. За 6 гадзінаў аднаго дня спаборніцтваў — 15 ліпеня, яна чатыры разы ўздымалася на верхнюю прыступку пастамента пашаны ў спаборніцтвах весляроў на байдарках.

Пры гэтым першыя два «золата» спаборніцтваў наша суайчынніца заваявала менш чым за 40 хвілін.

Першае «золата» Марына Літвінчук і Вольга Худзенка выйгралі ў заездзе байдарак-двоек на 200 метраў. Прайшло менш за 40 хвілін — і Вольга Худзенка і Марына Літвінчук зноў узышлі на пастамент для атрымання «золата» ў байдарцы-чацвёрцы ў заездзе на 200 метраў. Кампанію ім склалі Надзея Папок і Маргарыта Цішкевіч (яна, дарэчы, гадзінай раней заваявала срэбра Універсіяды ў байдарцы-адзіночцы на дыстанцыі 200 метраў).

Затым нястомная Літвінчук зноў выйшла на старт у спаборніцтвах жанчын-байдарачніц у адзіночцы на 500 метраў і не пакінула шанцаў саперніцам. Праз гадзіну Літвінчук ужо сядзела ў байдарцы-чацвёрцы на дыстанцыі 500 метраў у кампаніі з Сафіяй Юрчанкай, Надзеяй Папок і Вольгай Худзенкай. Гэта было чацвёртае золата ў яе персанальнай скарбонцы, трэцяе — для Вольгі Худзенкі і другое — для Надзеі Папок.

ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА



Фота Сяргея Луканіна

«Я думаў, як даць ім прытулак і дах над галавой». Аляксей Шчадроў (у цэнтры) сярод жыхароў прытулку



Усяго праз прытулак ужо прайшло каля сотні чалавек, а ўзімку там стала жылі 27 небаракаў. «У асноўным, гэта людзі, якія вызваляліся з турмаў, ім проста не было куды ісці», — тлумачыць Шчадроў

# ЗЛОМ ЗА ДАБРО

Сяргей ПУЛЬША

**Ніводная добрая справа не застанецца беспакаранай. Менавіта такім дэвізам кіруюцца ўлады Гродзенскай вобласці. На Аляксея Шчадрова, які ў вёсцы Аляксандраўка Шчучынскага раёна арганізаваў прытулак для бяздомных, заведзеная справа па артыкуле 193-1 КК — дзейнасць ад імя незарэгістраванай арганізацыі.**

## Грэшнік, які пакаяўся

Сам Аляксей Шчадроў — малады яшчэ чалавек, яму 28 гадоў. Па адукацыі — медык, скончыў медыцынскую вучэльню, працаваў на «хуткай дапамозе». Але ў той жа час ён краў і прадаваў медычныя прэпараты наркатычнага дзеяння. Быў злоўлены, адбыў два гады за кратамі. У турме ён прыйшоў да Бога і стаў шчырым вернікам.

Магчыма, каб збыць тое зло, якое ён прычыніў людзям, ён і заняўся дабрачыннай дзейнасцю. Папрасіў дабраславення на міласэрную дзейнасць у мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча, атрымаў яго і паехаў у Гродна. Там ён шукаў, куды б прыкласці свае намаганні.

Але тая праца, якую ён рабіў у Гродна (а менавіта, раздача ежы беспрытульным у касцёле), яго не задавальняла. Ён адчуваў, што нешта робіцца няправільна. «Мяне непакоіла тое, што людзі прыходзілі, адзін раз паелі, а потым вярталіся на вуліцу. Мяне ж цікавіла, дзе яны жывуць, чаму яны не пераапранутыя, брудныя. Іншым разам мы вымушаныя былі адмаўляць людзям нават у ежы, бо пускаць у памяшканне з ежай іх было небяспечна — вошы, кароста. Я думаў, як даць ім прытулак і дах над галавой», — распавядае Шчадроў.

І ён вырашыў арганізаваць сталы прытулак для пастаянна альбо часова бяздомных. Хата ў вёсцы Аляксандраўка знайшлася ад знаёмых каталікоў, якія прадалі яе за смешны кошт у 500 долараў. Потым, пабачыўшы, што гэта — святая справа, Шчадрову прадалі і суседні дом за тую ж суму. А потым і яшчэ адзін — за 700. Танна, канешне, але што рабіць — вёска вымірае.

Усяго праз гэты прытулак ужо прайшлі каля сотні чалавек, а ўзімку там стала жылі 27 небаракаў. «У асноўным, гэта людзі, якія вызваляліся з турмаў, ім проста не было куды ісці», — тлумачыць Шчадроў.

Можна было б падумаць, што столькі былых зэкаў уяўляюць нейкую небяспеку для жыхароў мясцовасці. Але з усім тым, у прытулку Шчадрова вельмі строга, амаль па-манастырску. «У сем гадзінаў у нас пад'ём, у восем — малітва, у дзевяць гадзінаў снаданак. Тыя, у каго ёсць дакументы, выпраўляюцца на працу. Нехта ў прыватнікаў, нехта грузчыкам у краме, нехта ў саўгасе. Тыя, у каго дакументаў няма, альбо займаюцца афармленнем папераў, альбо працуюць па гаспадарцы і на гародзе. Ніхто не застаецца лайдаком», — кажа Шчадроў. Зразумела, пра алкаголь і наркотыкі ў гэтым «манастыры» казаць не выпадае.

Яшчэ калі Шчадроў пачынаў сваю дзейнасць, улады звярнулі на яе ўвагу. «Да нас прыязджалі і супрацоўнікі міліцыі, і супрацоўнікі КДБ, глядзелі, як мы маліліся, правяралі рэлігійную літаратуру. У сувязі з тым, што ў нас была пабудаваная невялічкая капліца, дзе мы маліліся, нам прапаноўвалі пайсці зарэгістравацца як рэлігійная арганізацыя. І больш ніякіх прэтэнзіяў да нядаўняга часу не было», — адзначыў Шчадроў.

## Улада ад д'ябла?

Тэарэтычна, улады павінны быць удзячныя Шчадрову — ён займаецца тым, чым павінны займацца сацыяльныя службы і міліцыя. Ён перавыхоўвае былых зняволеных, дае ім часовы прытулак, пакуль у іх няма дакументаў, уладкоўвае іх на працу, зніжае колькасць «бамжоў» і паляпшае паказчыкі Гродзенскай вобласці па колькасці сацыяльна неабароненага насельніцтва. Але гэта толькі тэарэтычна. Здзіўляе тое, што ўлада не тое што не дапамагла Шчадрову — нават пальцам не паварушыла, каб нечым паспрыяць гэтай справе.

«Яшчэ ў лютым мы спрабавалі зарэгістравацца ў мясцовым аддзеле па справах рэлігій абшчыну братоў місіянераў міласэрнасці. Але адтуль нас чамусьці адправілі ў курыю да епіскапа. Епіскап такія рэчы, вядома ж, не рэгіструе, і адправіў нас назад у гарвыканкам. Мы шмат разоў хадзілі па гэтым замкнёным коле, аднак потым проста апусцілі рукі. Пачалі жыць, як жылі, у малітве, спадзяючыся на Бога», — працягвае Шчадроў.

Менавіта такое стаўленне ўлады выклікае абурэнне юрыста пратэстанцкай царквы «Новае жыццё» Сяргея Луканіна, які наведаў прытулак Шчадрова. «Не было ніводнага кроку насустрач! Ніхто не падказаў, як зарэгістраваць арганізацыю, ніхто нават не паспрабаваў дапамагчы ў тым, каб тое, што робіць Шчадроў, ўваходзіла ў межы беларускага заканадаўства! Нічога такога не было ні з боку выканаўчай улады, ні з боку праваахоўных органаў», — кажа Луканін.

Як вынік, у чэрвені гэтага года міліцыя распачала ў адносінах да Шчадрова крымінальную справу за стварэнне і дзейнасць незарэгістраванай рэлігійнай арганізацыі. У абшчыну прыехалі супрацоўнікі міліцыі з пракурорам і вышэйшым кіраўніцтвам, з пастановай на вобшук. «Пачалі правяраць усё, кнігу побыту пастаяльцаў, фінансавыя кнігі, забралі малітоўнікі, кнігі, крыжыкі, усю літаратуру. Былі ў мяне дзве кніжкі Маці Тэрэзы, дык яны зачапіліся за тое, што яны выдадзены рыма-каталіцкай царквой Расіі, і іх на экспертызу адправілі. А ўвогуле мне сказалі, каб я спыніў сваю дзейнасць і знік адсюль хаця б у суседні раён, кінуў усё, што зроблена, і пераехаў з Аляксандраўкі ў іншае месца», — распавядае Шчадроў.

## Чаму?

Навошта ўладзе такія брутальныя дзеянні? Здаецца, ніхто не зацікаўлены ў тым, каб такая справа спынілася. Адзінае лагічнае тлумачэнне магло б быць з таго, што некаму з «высокіх кабінетаў» спатрэбілася зямля Шчадрова ў Аляксандраўцы, вось адсюль і такі «рэйдарскі захоп». Але гэтая версія, па словах Шчадрова, не вытрымлівае крытыкі. Побач не будуецца і не плануе будавацца нейкае «стратэгічнае» прадпрыемства, вёска — і так памірае, асаблівай мілавіднай прыроды пад катэджы побач таксама няма — пясок ды балота. Дый самой зямлі ў Шчадрова — 25 сотак, не вартыя яны таго, каб задзейнічаць у гэтым міліцыю, пракуратуру і абласныя ўлады. Бо, па звестках вернікаў, пастанова пра ўзбуджэнне крымінальнай справы супраць Шчадрова ўзгоднена на абласным узроўні.

По словах вернікаў, гэтаму ўчынку ёсць два тлумачэнні. Першае тлумачэнне ад Шчадрова — нібыта, сваім прытулкам вернік паказвае крах «сацыяльнай стабільнасці» ў рэгіёне. «Справа не ў тым, што мы молімся, а справа ў гэтых людзях, якія прыходзяць да нас. Як мне сказалі ў Шчучынскім гарвыканкаме, «у нас няма бамжоў, а ёсць малазабяспечаныя». А праблема ў тым, што такія людзі бяздомныя ёсць, і ім ніхто не хоча дапамагаць, імі не хочуць займацца. У Шчучынскім раёне няма такіх дамоў міласэрнасці. У Гродна на вуліцы Карскага ёсць дом начнога побыту, але ён адчыняецца а шостай вечара і а восьмай раніцы чалавек яго мусіць ужо пакінуць. Гэта не тое, што трэба людзям», — лічыць Шчадроў.

Другое тлумачэнне — ад Луканіна, які паразмаўляў з мясцовымі міліцыянтамі. Справа ў тым, што ўлада проста баіцца ірацыянальнай боязззю. «Калі я запытаўся ў міліцыянтаў, чаму яны так ціснуць чалавека, які займаецца дабрачыннасцю, то пачуў ад іх простую і зразумелую ім прычыну. Калі чалавек дзейнічае без рэгістрацыі, то міліцыі, калі там, у Шчадрова, здарыцца нешта не тое, не пашчасціць — яны згубяць свае месцы і свае пагоны. Таму прасцей за ўсё проста зачыніць прытулак і знішчыць яго. Гэта, дарэчы, тычыцца і прапановы Шчадрову пераехаць у іншае месца — галоўнае, каб ніякіх негатыўных наступстваў для гэтай мясцовай улады не было», — кажа Луканін.

> Калі Следчы камітэт падтрымае справу супраць Шчадрова, у Беларусі з'явіцца яшчэ адзін «вязень сумлення», а тыя, хто спрычыніўся да справы, трапяць у «чорны спіс» Еўрасаюза

Сапраўды, «нешта не тое» здарылася адзін раз — чалавек не кінуў піць і трапіў пад нагляд лекараў. Гэта быў адзіны інцыдэнт за два гады існавання прытулку, і адзін чалавек з 97, хто прайшоў праз ягоныя дзверы. Калі б у дзяржаўных выхаваўчых установаў і ў беларускіх турмах была б такая статыстыка — можна было б казаць пра тое, што злачыннасці ў Беларусі не існуе ўвогуле.

## Што ж далей?

Вынік усёй гэтай сітуацыі ўнечым парадаксальны. Зараз справа Шчадрова перададзеная ў Следчы камітэт. Той, хто дапамагаў былым зняволеным, рызыкуе наноў патрапіць за краты на два гады. Я думаю, што чалавека, які ўжо адседзеў разок у беларускай калоніі, другім тэрмінам не напужаеш.

А вось улада, якая заварыла ўсю гэтую кашу, аказалася проста ў глабальнай калошыне. Калі Шчучынскія ўлады спрабавалі паказаць, што ў іх няма «бамжоў», а ёсць толькі малазабяспечаныя, то сваімі дзеяннямі ў адносінах да Шчадрова яны якраз прадэманстравалі — «бамжы» ў іх ёсць, і праблема існуе.

Калі мясцовая міліцыя спрабавала пазбегнуць праблемаў, то ліквідацыяй прытулку яна якраз пасадзіла сабе на шыю некалькі дзясяткаў беспрытульных людзей. І калі яны хацелі, каб «нічога не здарылася», то зараз нешта здарыцца абавязкова — бо былыя зняволеныя ўжо не знаходзяцца пад наглядам Шчадрова, і ніхто імі не апекуецца.

Калі Следчы камітэт падтрымае справу супраць Шчадрова, то ў Беларусі з'явіцца яшчэ адзін «вязень сумлення», а некалькі чалавек, якія спрычыніліся да гэтай справы, трапяць у «чорны спіс» неўязных у Еўрасаюз — усе ведаюць, як Еўропа ставіцца да крымінальнага артыкула 193-1 і што яна лічыць яго неканстытуцыйным і не адпавядаючым асноўным сусветным правам грамадзян.

Нельга абыякава ставіцца да рэакцыі на гэтую справу як каталіцкай царквы, так і іншых цэркваў, і ў Беларусі, і ў замежжы. Калі ўлады «закрыюць» шчырага каталіка Шчадрова за зробленую ім богаўгодную справу, то пра шматлікія запрашэнні Папе Францыску наведаць Беларусь можна проста забыцца. Папа наўрад ці з разуменнем паставіцца да асабліасцяў беларускага заканадаўства.

Прасцей за ўсё было б справу ў адносінах да Шчадрова спыніць, а ягоную абшчыну зарэгістраваць. Тады б было добра ўсім: і ўладзе, і Шчадрову. Пакуль што «кропка незвароту» не пройдзеная, і ва ўлады ёсць шанец ачомацца.

КІТАЙСКІ ВЕКТАР

# БЕЛАРУСЬ — «АЭРАДРОМ ПАДСКОКУ»

Таццяна ЛІСІЧЭНКА

**Візіт Лукашэнкі ў Кітай быў поўны планаў. Наладзіць узаемавыгаднае супрацоўніцтва з другой эканомікай свету было б карысна. Але эксперты скептычна ставяцца да гэтага супрацоўніцтва.**



Дамова падпісана. 16 ліпеня 2013 г.

## Планаў — на мільярды

Напярэдадні візіту Аляксандр Лукашэнка даў вялізнае інтэрв'ю кітайскаму інфармацыйнаму агенцтву «Сіньхуа». У прыватнасці, у ім ён адзначыў, што мае вялікія спадзяванні на развіццё стасункаў. Напрыклад, запуск беларуска-кітайскага індустрыяльнага парка пад Смалявічамі павінен раз і назаўсёды вырашыць праблемы з беларускім экспартам.

«Мы не ствараем тут парк адвёртак, вобразна кажучы. Тут павінен выпрабляцца высокатэхналагічны прадукт заўтрашняга дня: ад распрацовак да вытворчасці, у канчатковым рахунку, канкрэтнага тавару, які пойдзе на рынак... Парк арыентаваны на прыцягненне сусветных кампаній з высокатэхналагічным прадуктам, з прадуктам ужо заўтрашняга эканамічнага ўкладу, каб мы маглі на гэтым высокатэхналагічным рынку гандляваць гэтым прадуктам, каб ён знаходзіў збыт і быў канкурэнтаздольны», — марыць Лукашэнка.

Крыху больш рэалістычна выглядае віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік. Паводле яговых словаў, падчас візіту планавалася заключыць больш за 30 пагадненняў і кантрактаў, у тым ліку інвестыцыйных праектаў агульнай сумай каля 1,5 мільярда долараў.

## А ці будзе карысць?

Паглядзім на структуру экспарту і імпарту. Паводле статыстычных дадзеных, у 2012 годзе Беларусь прадала ў Кітай тавараў на 434 мільёна долараў. Такія грошы, канешне, на дарозе не валяюцца, але гэта — толькі 0,9% ад аб'ёму таварнага экспарту. Амаль 46% у структуры экспарту ў Кітай займаюць калійныя, а яшчэ 22% — азотныя ўгнаенні. Таксама мы паставілі кітайцам 182 трактары і цэлых 17 грузавікоў. Такія аб'ёмы паставак незаўважныя для Кітая нават у рамках аднаго горада.

А вось кітайскія вытворцы ўсё больш і больш захопліваюць рынак Беларусі. У 2012-м доля Паднябеснай у імпарце тавараў склала 5,1% (2 мільярда 368 мільёнаў долараў). Кітай хутка даганяе Германію, чыя доля складае 5,9%.

З Кітая мы завозім тытунёвую сыравіну, валізкі, тканіны, ніткі, адзенне, абутак, часткі абутку, друкавальнае абсталяванне, сельскагаспадарчыя і швейныя машыны, мікрафоны, тэлевізары, маніторы, ровары, цацкі, венікі, шчоткі, і пэндзлі і шмат што яшчэ. Частку з гэтага — ровары, сельскагаспадарчыя машыны, тэлевізары і адзенне з абуткам, што складаюць канкурэнцыю беларускай прадукцыі, — нам набываць неабавязкова. Але ў той час, калі галоўнае — тавараэварот і палітычныя разлікі, на гэта заплюшчваюць вочы.

Эканамісты кажуць, што Лукашэнка паехаў у Кітай прасіць грошы. Але гэта таксама праблематычна. Не толькі таму, што Кітай грошы дае вельмі спецыфічна, а таму, што ранейшы своп-крэдыт у 15 мільярдаў долараў Беларусь проста не здолела засвоіць.

Што ж да спецыфічнасці кітайскіх крэдытаў, дык усе ў адзін голас сцвярджаюць, што гэта так званыя "звязаныя" крэдыты, выгаду з якіх атрымлівае найперш сам Кітай. То бок, Паднябесная выдзяляе грошы на нейкі праект. Але ўмовамі крэдыту з'яўляецца тое, што абсталяванне набываецца кітайскае, матэрыялы набываюцца таксама кітайскія, спецыялісты працуюць з Кітая, а часцяком і звычайныя працоўныя — кітайцы. Назваць гэта «крэдытам Беларусі» вельмі складана. Беларускіх у ім толькі два моманты: нешта будуецца на нашай тэрыторыі, і тое, што аддаваць гэты крэдыт нам.

Вядома пра два буйныя праекты, па якіх заключаныя пагадненні на фінансаванне. Першы —інвестыцыі ў зборку ў Беларусі кітайскіх, заўважце, легкавікоў «Geely». «Адвёрткамі» мы іх ужо збіраем, а зараз плануецца пабудаваць завод, разлічаны на выпуск 120 тысяч машын у год. На гэта выдзяляецца 500 мільёнаў долараў з запланаваных 1,5 мільярдаў.

Яшчэ адным «прарывам» можна назваць выдзяленне Кітаем ільготнага пакупніцкага крэдыту на 15 гадоў і вартасцю ў 323,8 мільёна долараў для рэалізацыі праекта «Будаўніцтва АЭС у Рэспубліцы Беларусь. Выдача магутнасці і сувязь з энергасістэмай». Але не выключана, што гэта зноў-такі "звязаны" крэдыт пад тое, чаго яшчэ няма і, можа, не будзе.

Што ж тычыцца мараў Аляксандра Лукашэнкі з нагоды 50 мільярдаў экспарту ад Беларуска-кітайскага індустрыяльнага парка, то, па меркаванні экспертаў, гэта не проста мары, а спроба напярэдадні візіту «падагрэць» цікавасць з боку Кітая да праекта. Бо не створаны пакуль што яшчэ ні сам парк, ні яговыя рэзідэнты. Што ён будзе выпускаць, таксама пакуль не вядома.

## «Аэрадром падскоку»

«Аэрадром падскоку» — гэта вайсковы тэрмін, які азначае своеасаблівую "апорную базу", пляцоўку для самалётаў, вызначаную для кароткатэрміновай стаянкі і дазапраўкі тэхнікі, каб павялічыць дальнасць дзеяння авіяцыі. У час Другой сусветнай вайны, напрыклад, амерыканцы проста не даляталі са сваёй тэрыторыі, каб бамбіць Берлін. Але ў якасці апорнай базы яны скарысталі Вялікабрытанію, адкуль да фашыстаў — рукой падаць.

Магчыма, для кітайскай эканомікі Беларусь магла б стаць такім «аэрадромам падскоку» як на Захад, так і на Усход, бо яна знаходзіцца паміж дзвюма буйнейшымі эканамічнымі гульцамі — Еўрасаюзам і Расіяй. Вытворчасць тут кітайскіх тавараў магла б паспрыяць кітайскай экспансіі ў абодва бакі.

Больш складана з Еўропай: для таго, каб быць пляцоўкай для экспансіі Кітая ў ЕС, трэба мець нармальныя адносіны з ЕС. А ў беларускага кіраўніцтва (як, дарэчы, і ў кітайскага) існуюць палітычныя праблемы з Брусэлем, што не спрые і ўзаемнаму гандлю.

Канешне, як мы неаднаразова пераконваліся ў адносінах з тым жа ЕС, грошы не пахнуць. Тым не менш, значна больш спрыяльныя ўмовы для кітайскай экспансіі могуць прапанаваць новыя краіны — чальцы ЕС.

З Расіяй таксама ўсё няпроста. Можна было б разлічваць на тое, што мы дадзім Кітаю выхад у рынкі новастворанага Мытнага саюза, але варта прызнацца, што гэтую ролю можа значна лепш выканаць Казахстан — ён да Кітая бліжэй. Ды і Расія наўрад ці паглядзіць на гэта спакойна, а нам яшчэ ад яе нафту атрымліваць.

Калі Лукашэнка замірыцца з ЕС, тады Кітай, канешне, можа разглядаць усур'ёз і доўгатэрміновае супрацоўніцтва з Беларуссю. Але для гэтага трэба выканаць першую ўмову — адпусціць палітвязняў.

Атрымліваецца, што зусім не дэмакратычны Кітай можа стаць адным з галоўных фактараў паляпшэння сітуацыі з правамі чалавека ў Беларусі. Бо калі мы на доўгі тэрмін палепшым адносіны з Захадам, мы здолеем стаць і доўгатэрміновым партнёрам для Кітая. Вось тады ўжо ў нас і будуць выгоды ад супрацоўніцтва.

КАЛОНКА КАНСТАНЦІНА СКУРАТОВІЧА

# НА КАГО ПРАЦУЕ БЕЛАРУСКІ ЎРАД?

**Тое, што сёння адбываецца ў эканоміцы, наводзіць на думку, ці не рыхтуецца ўрад для чарговай канфіскацыі грашовых набыткаў насельніцтва, як гэта было два гады таму.**



Ёсць і канкрэтныя рэчы, якія сведчаць пра пагрозу чарговай дэвальвацыі рубля. Бо апошняе змяншэнне вартасці беларускай грашовай адзінкі прынесла толькі часовую палёгку народнай гаспадарцы. Так, дэвальвацыя паспрыяла росту экспарту, але не закранула сталую тэндэнцыю ў знешнім гандлі. Тэмпы больш хуткага падвышэння імпарту над экспартам аднавіліся.

Заканамерна аднавілася і тэндэнцыя падвышэння складскіх запасаў гатовай прадукцыі большасці галін прамысловасці. Па стану на 1 чэрвеня складскія запасы, значную частку якіх трэба адносіць на неліквіднасць, складаюць больш за 80% сярэднемесячнага аб'ему вытворчасці. На гэту ж дату мінулага года запасы нерэалізаванай прадукцыі перавышалі палову сярэднемесячнага аб'ему вытворчасці, што таксама лічылася зашмат. Але ўжо тады крытычнага стану дасягнула лёгкая прамысловасць: складскія запасы швейнікаў дасягнулі 154%, а краўцоў — 243% сярэднямесячнага памеру вытворчасці.

Здаецца, усе разумеюць — далей так жыць нельга. Бо не можа існаваць і працаваць эканоміка, якая не мае жывых грошай, якія прадпрыемствы павінны атрымліваць ад рэалізацыі прадукцыі. Зразумела, дзяржава мае магчымасць спрыяць эканоміцы, але не здолее ўзяць на сябе фінансаванне ўсіх актуальна і патэнцыяльна стратных прадпрыемстваў. Фінансаваць, канешне, можна. Але гэта прывядзе краіну і народ да жабрацкай торбы.

Прыкладам, колькі ні ратавалі камвольны камбінат, дывановыя фабрыкі, ніякай рады не змаглі даць. Людзі на гэтых прадпрыемствах не працуюць, а пакутуюць. Колькі дырэктараў памянялі, колькі бухгалтараў ці пасадзілі, ці пагражалі пасадзіць (нават абяцалі галовы паадрываць), але ўсе і ўсё захаваліся «пры сваіх». Як паведаміў Белстат, складскія запасы тэкстыльшчыкаў падняліся амаль да двух сярэднямесячных аб'ёмаў вытворчасці, а краўцоў — да трох.

У свой час улады не здолелі правесці прагматычную працэдуру прыватызацыі лепшых і буйнейшых прадпрыемстваў, якімі тады цікавіліся інвестары. А зараз гэту «беларускую крэпасць» возьмуць голымі рукамі. Дакладней, згодна з усходняй прымаўкай: калі цярпліва пасядзець на беразе ракі, то можна ўбачыць, як па цячэнні праплывае цела ворага. Вось з'ездзіў Лукашэнка з афіцыйным візітам у КНР. Сустрэўся з лідарамі гэтай адзінай камуністычнай імперыі ў свеце. Зразумела, палітыкі сказалі добрыя словы пра сяброўства і супрацоўніцтва дзвюх краін. Але абавязкова ўзнікне «бухгалтарскае пытанне». Лукашэнку давядзецца зрабіць справаздачу наконт таго, як былі выкарыстаны кітайскія крэдыты і, амаль відавочна, папрасіць новых.



Адзначым, што раней крэдыты былы звязанымі, гэта значыць выдаваліся пад закупкі кітайскіх тавараў і паслуг. Можна лічыць, што «жывых юаняў» ніхто не атрымаў. Фірмы-імпарцёры завезлі кітайскія тавары ў беларускія крамы, а кітайскі банк залічыў беларускія рублі ў якасці разліковых рэсурсаў. На льготных умовах, якія дапамагаюць губляць астаткі канкурэнтаздольнасці беларускім прадпрыемствам. Раней ужо згубілі вытворчасць фотаапаратуры, потым радыёпрыёмнікаў і (амаль ужо) тэлевізараў, паставілі крыж на канверсійных праграмах у былым ВПК, збанкрутавалі лёгкую прамысловасць, на чаргу да банкруцтва пастаўлены машынабудаванне, электронная, мэблевая прамысловасці.

Як адзначаюць спецыялісты, беларускія ўлады не маюць агульнага плана па ратаванні эканомікі ад крызісу. На мой погляд, такі план ёсць, але ён скіраваны не на аздараўленне беларускай прамысловасці, а на давядзенне яе да поўнага банкруцтва. Калі ўрад адкрывае рынак для імпарцёраў, ён стымулюе канкурэнтаздольнасць айчынных вытворцаў. А калі атрымлівае звязаны крэдыт на льготных умовах, то дзейнічае ў інтарэсах канкурэнтнай краіны. І гэта аксіёма. Таму хацелася б усё ж даведацца, інтарэсы якой дзяржавы бесперапынна прасоўваюць нашы ўлады? І на каго працуе наш урад?

## 26 ЛІПЕНЯ, ПЯТНІЦА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.00, 07.20, 08.15** Добрай раніцы, Беларусь!
**07.00, 08.00, 09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 00.20** Навіны.
**07.05, 08.05** Дзелавое жыццё.
**07.10, 08.10** Зона Х.
**08.45** Слова Мітрапаліта Тадэвуша Кандрусевіча.
**09.10** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**10.05** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё ад пачатку» (Расія). 4-я серыя.
**11.05** Дакументальны серыял «Некранутая планета» (Чэхія-Вялікабрытанія). Заключныя серыі.
**12.10** Дзень у вялікім горадзе.
**13.15** Дакументальны серыял «Азбука добрага самаадчування» (Аўстралія).
**13.55** Драматычны серыял «Маскоўскі панадворак» (Расія). 4-я серыя.
**15.15, 18.40** Навіны рэгіёна.
**15.25** Сфера інтарэсаў.
**15.45** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).
**16.50** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда» (Украіна).
**17.45** Меладраматычны серыял «Добры дзень, мама!» (Украіна).
**19.20, 23.55** Зона Х. Вынікі тыдня.
**19.55** Меладраматычны серыял «Земскі доктар. Жыццё ад пачатку» (Расія). 5-я серыя.
**21.00** Панарама.
**21.55** Містычная драма «Страказа».
**00.40** Дзень спорту.
**00.55** Камедыйны серыял «Мужчына ўнутры мяне» (Расія).

### Н

**06.00, 08.30** Нашы навіны.
**06.05** АНТ прадстаўляе: «Наша раніца».
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Жыць здорава!».
**10.25** «Кантрольны закуп».
**11.00** Нашы навіны.
**11.05** Навіны спорту.
**11.10** «Закрытая школа». Шматсер. фільм.
**12.10** Прэм'ера. «Жаночы доктар 2». Шматсерыйны фільм.
**13.00** Нашы навіны.
**13.05** Навіны спорту.
**13.10** «Добрага здароўейка!».
**13.55** «Модны прысуд».
**15.00** «Я падаю на развод».
**16.00** Нашы навіны.
**16.10** Навіны спорту.
**16.15** «Ісціна дзесьці побач».
**16.40** Прэм'ера. Фільм «Абраз».
**18.00** Нашы навіны (з субтытрамі).
**18.15** Навіны спорту.
**18.20** АНТ прадстаўляе: «Чакай мяне». Беларусь.
**18.55** Поле цудаў.
**20.00** Час.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Выходжу цябе шукаць 2». Шматсерыйны фільм.
**23.20** Фільм «Гладыятар».
**02.10** Начныя навіны.

### ТВ

**06.00** «24 гадзіны».
**06.10** «Міншчына».
**06.20** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**07.30** «24 гадзіны».
**07.40** «СТБ-спорт».
**07.45** «Раніца. Студыя добрага настрою».
**09.00** «Нам і не снілася».
**10.05** «Аўтапанарама».
**10.30** «24 гадзіны».
**10.40** «Прошаная вячэра».
**11.35** «Слова жанчыне». Серыял.
**12.30** «Джэймі у сябе дома».
**13.00** «Добры дзень, доктар».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.50** Фільм «Вершнік з іменем смерць». Расія, 2004г.
**15.40** «Ашуканыя навукай».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Пад абаронай».
**17.20** «Міншчына».
**17.30** «Прошаная вячэра».
**18.30** Прэм'ера. «Эліксір маладосці».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «Сталічныя падрабязнасці».
**20.10** «СТБ-спорт».
**20.15** «Добры вечар, маляня».
**20.30** Фільм «Агент 117. місія ў Рыа». Францыя, 2009г.
**22.30** «24 гадзіны».
**22.55** «СТБ-спорт».
**23.00** «Ежа багоў».
**00.00** Еўрапейскі покерны турнір.
**00.50** Фільм «Каралева Шантэклера». Іспанія, 1962г.

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.00** Раніца.
**09.00** Тэлебарометр.
**09.05** Іранічны дэтэктыў «Пацалунак Сакрата» (Беларусь).
**10.15** Час футболу.
**11.05** Дакументальны фільм «Сустрэча» («Беларусьфільм»).
**11.30** Фантастычна-прыгодніцкі серыял «Госця з будучыні» (СССР). Закл. серыі.
**13.50** Пад грыфам «Вядомыя».
**15.00** Вострасюжэтны серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга» (СССР). 4-я серыя.
**16.35** Дакументальны серыял «Усе грані вар'яцтва» (Германія).
**17.15** Дача здароўя.
**17.55** Рэгіянальная праграма.
**19.00** Меладрама «Слухаючы цішыню».
**21.20** Тэлебарометр.
**21.25** КЕНО.
**21.30** Вострасюжэтны серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга» (СССР). 5-я серыя, заключная.
**23.15** Рэпарцёр «Беларускай часіны».
**00.00** Арэна.

### РОССИЯ

**07.00** Раніца Расіі.
**08.00** Раніца Расіі.
**10.00** Адмысловы выпадак.
**11.00** Весткі.
**11.30** Прамы эфір.
**12.40** Тэлесерыял «Раскол».
**13.50** Навіны - Беларусь.
**14.00** Весткі.
**14.30** 1000 дробязяў. Ток-шоў.
**15.10** Пра самае галоўнае. Ток-шоў.
**15.55** Тэлесерыял «Земскі доктар. Працяг».
**16.50** Навіны - Беларусь.
**17.00** Весткі.
**17.15** Мясцовы час. Весткі-Масква.
**17.30** Весткі. Дзяжурная частка.
**17.50** Таямніцы інстытута высакародных дзяўчын. Тэлесерыял.
**18.50** Ефрасіння. Тайговае каханне. Тэлесерыял.
**19.50** Навіны - Беларусь.
**20.00** Весткі.
**20.40** Прэм'ера. Крывое люстэрка. Тэатр Яўгенія Петрасяна.
**21.55** Тэлесерыял Земскі доктар. Працяг.
**22.55** Навіны - Беларусь.
**23.05** Новая хваля-2013. Трансляцыя зЮрмалы.
**00.50** Пацалуйце нявесту! Тэлесерыял.

### НТВ

**06.00** Сёння.
**06.07** Таямнічая Расія.
**07.00** Сёння.
**07.07** Чыстасардэчнае прызнанне.
**07.53** Сняданак З Юліяй Высоцкай.
**08.00** Сёння.
**08.10** Зноў добры дзень.
**08.41** Дэтэктыўны серыял. «Вяртанне Мухтара-2» 306-307 серыі. Расія. 2009 г.
**10.00** Сёння.
**10.20** Дэтэктыўны серыял. «Вяртанне Мухтара-2» 307 серыя.(канчатак) Расія. 2009 г.
**10.57** Да суда.
**11.56** Суд прысяжных.
**13.00** Сёння.
**13.26** Крымінальны серыял. «Вуліцы пабітых ліхтароў-8» 15-16 серыя. Расія. 2005 г.
**15.14** Справа густу.
**15.41** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**16.00** Сёння.
**16.25** Пракурорская праверка.
**17.30** Пракурорская праверка.
**18.35** Агляд. Надзвычайнае здарэнне.
**19.00** Сёння.
**19.35** «Масква. Тры вакзала-6» 7-8 серыі. Расія.
**21.21** Баявік. «Марскія д'яблы-5» 17-18 серыі. Расія.
**23.05** Дэтэктыўны серыял. «Глушэц. Працяг» 43-44 серыі. Расія, 2009.
**00.55** Дэтэктыўны серыял. «Глушэц. працяг» 45 серыя. Расія, 2009.

### МИР

**05.00** «Агонь кахання».
**06.40** «Арабэла».
**07.05** «Цік-так».
**07.20** «Смешарыкі».
**08.30** «Йохан ды Мар'я».
**09.00, 12.00, 15.00, 18.00** Навіны Садружнасці.
**09.10, 02.15** «Светлая асоба».
**10.40** «На шашлыкі».
**11.10** «Зорны бізнэс».
**12.25** «Постскрыптум».
**14.15, 01.50** «Сардэчна запрашаем».
**14.45** «Рэспубліка сёння».
**15.25** «Заручальны пярсцёнак».
**17.00** Ток-шоў «Слова за слова».
**18.30** «Брэйк-поінт».
**20.20** «Любімыя акцёры».
**20.50** Справы сардэчныя.
**22.30** Аператыўная распрацоўка - 2. Камбінат.
**00.15** Позняе жыццё.
**03.40** «Цюркі Расіі».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Пераемнікі», дакументальна-публіцыстычны цыкл.
**08.15** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 12 серыя.
**09.00** Блізкая гісторыя. Іншы погляд: «Жыццё цудоўнае», дак. фільм, 2010 г., Польшча.
**10.00** Невядомая Беларусь: «Еўрапейскі баль», дак. фільм, 2010 г., Беларусь.
**10.35** На колах.
**11.00** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**17.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**17.05** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 16 серыя.
**17.30** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 8 серыя.
**18.00** Аб'ектыў (агляд падзеяў дня).
**18.05** «Акварыум», серыял: 3 серыя.
**18.55** Еўропа сёння.
**19.25** Невядомая Беларусь: «Вясна», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх.
**20.10** Форум (ток-шоу).
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.25** Студыя «Белсат».
**22.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**22.10** «Кароль-вінароб», серыял: 13 серыя.
**22.55** «Маці сваёй маці», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**00.30** Лета з дэтэктывам: «Дэфект», тэлесерыял: 8 серыя.
**01.25** Аб'ектыў.
**01.50** Студыя «Белсат».

## 27 ЛІПЕНЯ, СУБОТА

### 1 БЕЛАРУСЬ

**06.15** Камедыя «Кін-дза-дза!» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**08.30** Існасць.
**09.00, 12.00, 15.00, 19.00** Навіны.
**09.10** Зямельнае пытанне.
**09.35** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі» (Расія - Украіна).
**11.35** Усё як мае быць!
**12.10** Прыгодніцкі дэтэктыў «Карчма на Пятніцкай» (СССР).
**14.05** Паміж мірам і вайной.
**14.15** Вакол планеты.
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Дакументальны цыкл «Зорнае жыццё» (Украіна).
**16.25** Каробка перадач.
**16.55** «Славянскі базар у Віцебску-2013».
**18.35** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**19.15** Сямейная камедыя «Дарагая, я паменшыў дзяцей» (ЗША).
**21.00** Панарама.
**21.40** Баявік «Без твару» (ЗША).
**00.10** Дзень спорту.
**00.20** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі» (Расія - Украіна).

### Н

**07.00** АНТ прадстаўляе: «Суботняя раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** «Смешарыкі. Новыя прыгоды».
**09.20** «Здароўе».
**10.25** «Смак».
**11.05** «Ідэальны рамонт».
**12.05** «Абракадабра».
**13.55** «Спадчына». Шматсерыйны фільм.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Зваротны адлік».
**16.50** «Форт Баярд».
**18.20** «Клуб Вясёлых і Знаходлівых». Вышэйшая ліга.
**20.30** Нашы навіны.
**21.00** Навіны спорту.
**21.05** «Сёння ўвечар».
**22.50** Драма «Меланхолія».

### ТВ

**06.15** «Салдаты». Серыял.
**07.05** «Анфас».
**07.20** Фільм «Агент 117. місія ў Рыа». Францыя, 2009г.
**09.10** «Чыстая праца».
**10.00** «Іншая краіна».
**10.35** «100 адсоткаў».
**11.00** «Жанчыны XX стагоддзя».
**11.30** «Мінск і мінчане».
**12.05** «Сакрэтныя тэрыторыі».
**13.05** «Прыгоды дылетанта».
**13.40** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял.
**14.45** «Ваенная таямніца».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.45** «Наша справа».
**17.00** «Вялікі горад».
**17.40** «Такі лёс».
**18.30** «Дзіўная справа».
**19.30** «24 гадзіны».
**20.00** «СТБ-спорт».
**20.10** Фільм «Дзяўчына, якая руйнавала паветраныя замкі». Швецыя - Данія - Германія, 2009г.
**22.50** СТВ прадстаўляе: «Зорны рынг».
**23.50** Фільм «Забіць Бона». Вялікабрытанія - Ірландыя, 2011г.
**01.45** «Глядзець усім!».

### 2 БЕЛАРУСЬ

**07.45** Мультфільм.
**08.00** Прыгодніцкі фільм «Летнія ўражанні пра планету Z» («Беларусьфільм»). 1-я і 2-я серыі.



**10.25** Пазакласная гадзіна.
**10.45** Тэлебарометр.
**10.50** Вострасюжэтны серыял «Месца сустрэчы змяніць нельга» (СССР). 5-я серыя, заключная.
**12.35** Пад грыфам «Вядомыя».
**13.15** Дакументальны серыял «Усе грані вар'яцтва» (Германія).
**13.55** Дача здароўя.
**14.30** Меладрама «Слухаючы цішыню».
**16.40** Трагікамедыя «Сабачае сэрца» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**19.15** Ваша лата.
**19.55** Латарэя «Пяцёрачка».
**20.15** Вышэй за дах.
**20.55** Тэлебарометр.
**21.00** «КЕНО».
**21.05** Фантастычны баявік «Канец свету» (ЗША).
**23.20** Фільм-пародыя «Антыбумер» (Расія).

### РОССИЯ

**07.00** Мультфільмы.
**07.20** Крывое люстэрка. Тэатр Яўгенія Петрасяна.
**08.35** Фільм Арыфметыка ганебнасці. 2011 г.
**10.25** Ранішняя@пошта.
**11.00** Весткі.
**11.15** Суботнік.
**11.55** PROтурызм.
**12.15** Фільм Вам і не снілася..
**14.00** Весткі.
**14.15** Хвілінная справа. Забаўляльная праграма.
**15.10** Людміла Зыкіна. Дыяменты адзіноты.
**16.10** Фільм Я цябе нікому не аддам. 2010 г. 1-я серыя.
**18.05** Суботні вечар.
**19.55** Надвор'е на тыдзень.
**20.00** Весткі.
**20.30** Прэм'ера. Фільм Князёўна з хрушчоўкі. 2012 г.
**23.50** Новая хваля-2013. Трансляцыя з Юрмалы.

### НТВ

**06.21** Дэтэктыўны серыял. «Дарожны патруль-2» 1-2 серыі. Расія. 2009.
**08.00** Сёння.
**08.20** Іх норавы.
**08.55** Гатуем з Аляксеем Зіміным.
**09.24** Справа густу.
**10.00** Сёння.
**10.19** Галоўная дарога.
**10.52** Кулінарны паядынак.
**11.52** Кватэрнае пытанне.
**13.00** Сёння.
**13.22** «Танец жывата. « Меладрама. Расія, 2007.
**14.58** Чыстасардэчнае прызнанне.
**15.32** ГРУ. Таямніцы ваеннай выведкі.
**16.18, 18.02** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-3». 1-2 серыі. Расія.
**19.00** Сёння.
**19.23** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-3». 4 серыя. Расія.
**20.18** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-3». 5-6 серыі. Расія.
**22.03** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-2».7-8 серыі Расія.
**23.42** Дэтэктыўны серыял. «Глушэц. Працяг» 46 серыя. Расія, 2009.
**00.36** Дэтэктыўны серыял. «Глушэц. Працяг» 47-48 серыі. Расія, 2009.

### МИР

**05.00** «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**07.35** «Мільён пытанняў аб прыродзе».
**07.50** «Смешарыкі».
**08.15** «Эксперыментатары».
**08.30** «Мар! Дзейнічай! Будзь!».
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** На шашлыкі.
**09.40** «Зроблена ў СССР».
**10.10, 03.30** «Кухар і спявачка».
**11.25, 21.45** «Нябеснае жыццё».
**15.10** «Чэрчыль».
**20.00** «Бумеранг».
**01.20** «Любімыя акцёры».
**01.50** «Справы сардэчныя».

### БЕЛСАТ tv BELSAT

**07.00** Аб'ектыў.
**07.25** Студыя «Белсат».
**08.00** «Апантаныя», дак. цыкл.
**08.10** Казкі для дзетак: «Аповеды таты Бабра», «Прыгоды і паходы», «Пацукі».
**08.45** «Між намі, буслямі», анімацыйны серыял для дзяцей: 8 серыя.
**09.10** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 15 серыя.
**09.40** «Машына зменаў», тэлесерыял: 1 і 2 серыі.
**10.35** Форум (ток-шоу).
**11.25** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**12.20** «Жыццё ля поплаву», тэлесерыял: 12 серыя.
**13.00** «Час гонару», серыял: 44 серыя.
**13.45** «Маці сваёй маці», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**15.20** «Сенсацыі XX стагоддзя», серыял: «Таямнічы замак».
**16.10** «Кароль-вінароб», серыял: 13 серыя.
**16.55** «Ажыятаж вакол Басі», серыял: 4 серыя.
**17.25** Хто ёсць кім?: «Ганна Хітрык: «Думай пра добрае».
**17.40** «Джазмен з ГУЛАГу», дак. фільм, 1999 г., Францыя.
**18.35** «Аповеды выходнага дня», цыкл маст. фільмаў: «Прыцягальнасць распусты», 1996 г.
**19.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**19.45** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Аўтаспынам па Беларусі.
**20.15** Невядомая Беларусь: «Страх у краіне спакою», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**21.00** Аб'ектыў (галоўнае выданне).
**21.15** Суботні сеанс: «Дзеці і рыбы», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**22.50** Невядомая Беларусь: «Вясна», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**23.30** Лета з дэтэктывам: «Дэтэрмінатар», серыял: 8 серыя.
**00.20** Аб'ектыў.
**00.35** МакраФон: «Be Free–2008», фестываль: выступ гурта «Крама».
**01.10** «Калыханка» ад Сашы і Сірожы (сатырычная праграма).

## 28 ліпеня, нядзеля

### Беларусь 1

**07.25** Прыгодніцкі дэтэктыў «Карчма на Пятніцкай» (СССР).
**09.00, 12.00, 15.00** Навіны.
**09.10** Арсенал.
**09.35** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі» (Расія - Украіна). Заключная серыя.
**11.45** Нашы.
**12.10** Камедыя «Кін-дза-дза!» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**14.45** «Лёс старой кнігі». Дакументальны фільм (Беларусьфільм).
**15.15** Навіны рэгіёна.
**15.30** Зона Х. Вынікі тыдня.
**16.00** Дакументальна-біяграфічны цыкл «Мая праўда « (Украіна).
**16.55** «Славянскі базар у Віцебску-2013».
**18.35** Прыгодніцкі фільм «Фаварыт» (ЗША).
**21.00** У цэнтры ўвагі.
**21.55** Журналісцкае расследаванне.
**22.30** Рамантычная камедыя (ЗША).
**00.15** Камедыйны серыял «Калі ў вас няма цёткі» (Расія - Украіна). Заключная серыя.

### ОНТ

**07.00** «Нядзельная раніца».
**08.00, 09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субытрамі).
**09.20** «Смешарыкі. ПІН-код».
**09.35** «Шалапутныя нататкі».
**09.55** «Пакуль усе дома».
**10.50** «Фазэнда».
**11.25** «Зваротны адлік».
**12.00** Фільм «72 метры».
**14.25** «КВЗ». Прэм'ер-ліга.
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** Прэм'ера «Каханне ў душы маёй».
**17.30** «Браты Карамазавы». Шматсерыйны фільм.
**20.00** Контуры.
**21.05** «Вышка».
**23.10** Прэм'ера. Фільм «Іншае неба».

### СТВ

**06.30** «Салдаты». Серыял.
**07.25** Фільм «Дзяўчына, якая руйнавала паветраныя замкі». Швецыя - Данія - Германія, 2009г.
**10.00** «Аўтапанарама».
**10.30** «Таямніцы свету з Ганнай Чапман».
**11.30** «Вялікі сняданак».
**12.10** «Добры дзень, доктар».
**12.45** «Чатыры танкісты і сабака». Серыял.
**14.40** «Тэрыторыя памылак».
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**16.50** «Аўтапанарама».
**17.20** «Рэпарцёрскія гісторыі».
**17.50** Канцэрт М.Задорнава.
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.40** Фільм «Прышэльцы 2: калідоры часу». Францыя, 1997г.



**22.55** «Якія людзі!».
**23.50** Фільм «Эцюды ўтрох». Іспанія, 2009 г.
**01.30** «Дакументальны праект».

### Беларусь 2

**07.40** Мультфільмы.
**08.05** Фільм-казка «Варвара-краса, доўгая каса» (СССР).
**09.35** Пазакласная гадзіна.
**09.55** Тэлебарометр.
**10.00** Пра мастацтва.
**10.30** Трагікамедыя «Сабачае сэрца» (СССР). 1-я і 2-я серыі.
**13.05** Серыял «Талаш» («Беларусьфільм»). 1-я - 4-я серыі.
**17.00** Музычная камедыя «Дуэты» (ЗША).
**19.15** Суперлато.
**20.25** Навіны надвор'я.
**21.00** «Спортлато 5 з 36».
**21.05** «КЕНО».
**21.10** Крымінальная драма «Казіно» (ЗША-Францыя).



**00.15** Спорт-кадр.

### Россия

**07.00** Фільм Князёўна з хрушчоўкі. 2012 г.
**10.10** Сам сабе рэжысёр.
**11.00** Весткі.
**11.15** Смехапанарама.
**11.50** У свеце жывёл.
**12.25** Фільм «З каханымі не раставайцеся».
**14.00** Весткі.
**14.15** Скальпель для першых асоб. Таемная хірургія.
**15.15** Фільм Я цябе нікому не аддам. 2010 г. 2-я серыя.
**17.10** Прэм'ера. Смяяцца дазваляецца. Гумарыстычная праграма.
**19.25** Фільм «Шаптуха». 2012 г.
**20.00** Весткі.
**20.30** Фільм «Шаптуха». Працяг.
**23.40** Новая хваля-2013. Трансляцыя з Юрмалы.

### НТВ

**06.20** Дэтэктыўны серыял. «Дарожны патруль-2» 3-4 серыі. Расія. 2009.
**08.00** Сёння.
**08.19** Дзікі свет.
**08.49** Іх норавы.
**09.24** Ядзім дома!
**10.00** Сёння.
**10.19** Дачны адказ.
**11.24** Паедзем паядзім.
**11.57** Цуд тэхнікі.
**12.29** Кулінарныя курсы.
**13.00** Сёння.
**13.17** «Ружы для Эльзы».
**15.13** Чыстасардэчнае прызнанне.
**15.40** ГРУ. Таямніцы ваеннай выведкі.
**16.25** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-3». 9-10 серыі. Расія.
**18.13** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-3». 11 серыя. Расія.
**19.00** Сёння.
**19.23, 20.20, 22.05** Прэм'ера. «Дзяржаўная абарона-3». Расія.
**23.49** Дэтэктыўны серыял. «Глушэц. Вяртанне» 1 серыя. Расія, 2010.
**00.42** Дэтэктыўны серыял. «Глушэц. Вяртанне» 2-3 серыі. Расія, 2010.

### Мир

**05.00** «Галівудскія пары».
**06.00** Мультфільмы.
**09.00, 15.00** Навіны Садружнасці.
**09.10** «З нагоды».
**10.05** «Незорнае дзяцінства».
**10.30, 22.15** «Бобі».
**13.25** «Постскрыптум».
**15.10** Ток-шоў «Яшчэ не разам».
**15.50** «Чэрчыль».
**20.40** «Там, дзе грошы».
**01.15** «Светлая асоба».
**02.45** «Вясёлыя рабяты».
**05.25** «Даведнік».

### Белсат tv

**07.00** Аб'ектыў.
**07.15** Невядомая Беларусь: «Вясна», дак. фільм, 2012 г., Беларусь.
**07.50** Беларусы ў Польшчы.
**08.05** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма).
**08.15** Казкі для дзетак: «Матыльда», «Мядзведзікі», «Нодзі ў краіне цацак».
**08.45** «Дзяўчына з мокрай галавою», серыял: 1 серыя.
**09.10** «Піпі Доўгаяпанчоха», серыял: 16 серыя.
**09.40** «Эміль з Лённэбэр'і», серыял: 8 серыя.
**10.05** «Тры шалёныя нулі», серыял: 3 серыя.
**10.30** Басанож па свеце (спазнаваўчая праграма).
**11.00** «Глыбокая вада», серыял: 7 серыя.
**11.40** «Таямніцы Ватыкану», дак. серыял: 8 серыя.
**12.10** «Дзеці і рыбы», маст. фільм, 1997 г., Польшча.
**13.50** «Джазмен з ГУЛАГу», дак. фільм, 1999 г., Францыя.
**14.50** «Таямніца крэпасці шыфраў», тэлесерыял: 8 серыя.
**15.40** «Акварыум», серыял: 3 серыя.
**16.30** «Ваенныя гульні», дак. фільм: 1 серыя.
**17.15** Без рэтушы: «Сакрат Яновіч: як я стаў беларусам», рэпартаж, 2013 г., Польшча.
**17.45** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**18.10** Чорным па белым (культурніцкая праграма).
**18.40** «Нюрнбэрг», дак. фільм, 1996 г., ЗША–Вялікабрытанія.
**19.40** Гарадзенскія вандроўкі Станіслава Пачобута.
**19.50** Калыханка для самых маленькіх: «Нодзі ў краіне цацак».
**20.00** Невядомая Беларусь: «Невядомая вайна 1654–1667 гг. Крывавы патоп», дак. фільм, 2013 г., Беларусь.
**20.40** Побач з намі (зборнік рэпартажаў).
**21.00** Размовы эксперта (інфармацыйна-аналітычная праграма).
**21.20** Фільматэка майстроў: «Панна Ніхто», маст. фільм, 1996 г., Польшча.
**23.00** Лета з дэтэктывам: «Мент», дэтэктыўны серыял: 8 серыя.
**00.00** Вагон (сатырычна-забаўляльная

---

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы Час» немагчыма набыць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час» і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, аформіўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). Нашы рэквізіты: **рахунак 3012741108019 у аддзяленні №539 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153100739. Адрас банка: 220004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 220113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

Акрамя таго, падпісацца можна ў офісе і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў.

| | |
|---|---|
| Гомель | (8 029) 697 82 75 Аляксандр; |
| Магілёў | (8 029) 930 79 22 Міхась; |
| Мінск | (8029) 178 31 68 Вольга; |
| Бабруйск | (8029) 628 75 01 Вольга; |
| Слуцк | (8029) 364 42 60 Зінаіда. |

## Паважаныя чытачы!

Кошт аднаго нумара газеты — 2000 руб., аднаго месяца — 8000 руб. Дзякуй вам за разуменне і падтрымку!

Запрашаем да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл. +375 29 986 38 05**



БЕЛПОЧТА ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
(почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ________
(почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 ____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

Счет получателя 3012741108019 Лицевой счет Код 739

УНП* 190790926

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________

КРЭАТЫЎ





# ПУЦІН ІДЗЕ НА ДНО

**Алег НОВІКАЎ**

**Пагружэнне Пуціна на балтыйскае дно ў батыскафе зноў выклікала ў расійскім грамадстве дэбаты наконт загадкавай псіхікі расійскага гаранта.**

Здавалася, пасля славутага палёту з жураўлямі Пуцін назаўсёды ўстрымаецца ад экстравагантных учынкаў. Той палёт выклікаў хвалю іроніі і насмешак. Пасля таго, як Уладзімір Уладзіміравіч злятаў на дэльтаплане на чале групы жураўлёў-сцерхаў, яму ў сеціве далі мянушку «альфа-сцерх». Прэзідэнт РФ у выніку змушаны быў прызнаць, што некаторыя яго публічныя акцыі — пастановачныя.

Аднак не прайшло і года, як гаспадар Крамля адкалоў новы нумар. 15 ліпеня ўвесь свет стаў сведкам апускання прэзідэнта РФ Уладзіміра Пуціна ў батыскафе на дно Фінскага заліва, дзе на глыбіні 60 метраў кіраўнік расійскай дзяржавы асабіста даследаваў абломкі патанулага ў XIX стагоддзі ветразевага фрэгата. Праз 20 хвілін пасля пачатку падводнай эпапеі ён з'явіўся на паверхні, каб пахваліць працу Рускага геаграфічнага таварыства і ўшанаваць памяць рускіх маракоў, якія загінулі. Пасля пачалася другая частка імпрэзы. Пуцін перад аб'ектывамі камер зрабіў разнос ураду. «Вы працаваць будзеце ці не? Гэта што такое?» — не знаходзіў сабе месца «падводнік».

Што прымусіла Уладзіміра Пуціна зноў пачаць крэатывіць? Адказ на гэта пытанне спрабуюць даць расійскія і замежныя журналісты, а таксама расійскія блогеры.

Некаторыя па-ранейшаму лічаць, што вакол Пуціна сфармавалася групоўка палітычных тэхнолагаў-прайдзісветаў, якія навязалі свайму босу ідэю-фікс пра тое, што падобныя выхадкі станоўча адбіваюцца на рэйтынгу палітыка. Так, па меркаванні брытанскай «The Guardian», за кошт шпацыру па балтыйскім дне «былы агент КДБ імкнецца вярнуць народную любоў, якую ён часткова згубіў за мінулы год». Стаўка робіцца на тое, каб прадэманстраваць электарату сваю асабістую мужнасць. Іншая брытанская газета «The Daily Mail» адзначае, што, «хоць скарбаў прэзідэнт не знайшоў, апусканне стала чарговым прыкладам «праявы мужнасці», якую ён ужо дэманстраваў раней падчас лоўлі рыбы, палявання і катання на коні».

Такая версія мае права на існаванне. Аднак з улікам колькасці іранічных каментараў у сеціве на марскі подзвіг Пуціна, цяжка паверыць, што нехта з крытыкаў рэжыму, пабачыўшы профіль Пуціна у батыскафе, адразу змяніў сваю пазіцыю. Пералапаціўшы значную колькасць блогаў, я знайшоў толькі адзін пост, які ўхваляе ўчынак Пуціна. У запісе, які пакінуў нехта Андрэй Сляпкоў, гаворыцца: «А што, яму, як Брэжневу, кабаноў страляць у Падмаскоўі? Ці, можа, як Берлусконі, з прастытуткамі? Хай лепш такім чынам актыўна адпачывае».

У асноўным кадры з батыскафам выклікаюць крытычныя каментары. «Небарака, не ведае, чым заняцца ад гультайства: то амфары «знаходзіць», то сцерхаў усынаўляе. Нагадвае ката за яго вельмі важным заняткам». «За кошт дзяржавы ажыццяўляе свае дзіцячыя «хачу», а нам усё гэта яшчэ і паказваюць». «Навуковая каштоўнасць гэтага «афіцыйнага апускання» — ніякая. Вось цікава, а колькі бюджэтных рублёў было патоплена ў Фінскім заліве, каб з'явілася магчымасць паказаць Уладзіміра Уладзіміравіча па тэлевізары ў кабіне батыскафа?»

Праявілі сябе і аматары прыколаў: «Шкада, што У.У. Пуцін пагрузіўся на дно Балтыйскага мора ў батыскафе, а не ў машыне «Лада Каліна». «Ботакс не тоне». Князь з Пуціна і ў замежжы. Амерыканскі тэлеканал NBS News назваў Пуціна «Уладам-падводнікам».

У прынцыпе, можна было загадзя прагназаваць менавіта такую рэакцыю грамадства, сыходзячы з горкага папярэдняга вопыту. Паколькі праяў палітычнага прагматызму ў акцыях ВВП не праглядаецца, заканамерна ўзнікае правакацыйны тэзіс — існуе нешта ірацыянальнае, што штурхае Уладзіміра Уладзіміравіча ці то лятаць з жураўлямі, ці то лазіць па марскому дну.

Існуе, напрыклад, такая трактоўка паводзін расійскага прэзідэнта: Пуцін хоча выглядаць як ідэал мужчыны. Напрыклад, «The Guardian» бачыць у падзеях з батыскафам «чарговы трук для падтрымання старанна распрацаванага іміджу героя сучаснасці».

Наступная версія: у Пуціна прыступ нарцысізму. Газета «The Independent», якая назвала свой каментар пра апусканне на батыскафе «Місія нездзяйсняльная», піша: «Пуцін апускаецца на дно Фінскага заліва ў пошуку яшчэ адной магчымасці для асабістага фота». Такі падыход падтрымалі шмат гісторыкаў, якія знаходзяць падобныя рэцыдывы ў шматлікіх дыктатараў, неабмежаваных ва ўладзе. «У свой час Іосіф Вісарыёнавіч Сталін пасадзіў на дачы парастак лімона. «Холадна, Іосіф Вісарыёнавіч, змерзне», — сказалі яму. «У мяне — вырасце». Паводзіны Сталіна зусім не такія абсурдныя, як падаецца на першы погляд. Яны вельмі тыповыя для кіраўніка, які лічыць сябе гаспадаром самой прыроды. Адгэтуль — абагаўленне рымскіх імператараў, адгэтуль — міф пра тое, што французскія каралі дакрананнем лечаць залатуху. Пуцін, падобна, ужо дасягнуў стадыі залатухі. Яго слухаюцца шэрыя кіты, снежныя барсы і ўсурыйскія тыгрыцы. За ім ляцяць жураўлі, і зразумела, што нават калі бессэнсоўныя жураўлі ідуць за вялікім Пуціным, дык ці могуць не ісці за ім людзі? Хіба не ідуць толькі тыя, хто знаходзіцца на ўтрыманні ў крывавага Дзярждэпу», — піша папулярная журналістка Юлія Латыніна.

Самая арыгінальная і самая новая версія: Пуцін капіруе героя раманаў Яна Флемінга. Шмат хто лічыць, што сваю ідэю ён пазычыў у славутага Джэймса Бонда. «З Расіі з субмарынай», — такі загаловак выбірае для свайго артыкула «The Sun» і параўноўвае расійскага лідара з агентам 007. «The Daily Mail» таксама адзначае, што прэзідэнт РФ «здзейсніў апусканне на батыскафе ў стылі Джэймса Бонда». Сапраўды, у фільме «Шпіён, які кахаў мяне», ёсць вельмі падобны эпізод. Адным словам, застаецца чакаць, што вось-вось на афіцыйных самітах Пуцін пачне прадстаўляцца: «Май нэйм із Вова. Пуцін Вова».

Усе гэтыя экскурсы ў закавулкі пуцінская эга падаюцца вельмі смешнымі і ўносяць нейкі жывы струмень у сумную расійскую рэчаіснасць, якую назвалі «постбалотная Расія». Аднак расійскай інтэлігенцыі ўсё больш не да жартаў. Адзін з ліберальных сайтаў канстатуе: «Аднак старасць не за гарамі, і маразм будзе мацнець. Краіна дэградуе, а ён з жураўлямі на дэльтаплане. Інвестары ўжо змірыліся з адсутнасцю судовай сістэмы і мянтоўскім рэйдарствам, не маюць ілюзій наконт перспектыў. Вось яно, нафтавае шчасце, можна нічога не рабіць, проста лётаць з жураўлямі. Аднак, усё гэта балюча стукне. Не, не па жураўлях і дэльтапланерыстах, а па ўсіх нас».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Рынак Адзінай эканамічнай прасторы ўжо не забяспечвае рэалізацыю тавараў, якія застаюцца на складах. Становішча сур'ёзнае, і тым больш дзіўна гучаць аптымістычныя прамовы беларускага кіраўніцтва пра асаблівы шлях, па якім ідзе краіна. Складана сказаць, наколькі выбар уладамі асаблівага шляху адпавядае чаканням мільёнаў. Аднак Лукашэнка выдатна разумее, што «народная любоў» знаходзіцца ў прамой залежнасці ад росту даходаў і адваротна прапарцыйная росту курсу долара. Таму ён паступова, хоць і неабгрунтавана, павышае і заробкі, і пенсіі. Але эканамічных рычагоў уплыву на грамадства ў рэжыму становіцца ўсё менш. Гэта значыць, што ідэалагічныя міфы пра росквіт больш не дзейнічаюць на свядомасць беларусаў і лёгка паваляцца ад новай дэвальвацыі.

**«Deutsche Welle» (Германія)**

Прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч агучыў намер уладаў увесці падатак для беспрацоўных. Насельніцтва краіны абуранае неадэкватнасцю кіраўніцтва краіны. Эксперты сцвярджаюць, што вялікую колькасць людзей, якія працуюць па законах шэрага рынку, улада спарадзіла сама сваёй эканамічнай палітыкай і метадамі рэгулявання рынку працы.

**«Независимая газета» (Расія)**

Сітуацыю на валютным рынку Беларусі можна ацаніць як «сярэдняй цяжкасці». Паказчыкі знешняга гандлю рэспублікі ў першым квартале бягучага года несуцяшальныя. Ёсць нешта падобнае паміж цяперашнім становішчам і сітуацыяй, якая склалася ў сярэдзіне 2010 года, калі ўладамі краіны былі прыняты экстранныя меры для так званага «раздування» бюджэту, што скончылася цяжкім зацяжным эканамічным крызісам 2011 года, з якога Беларусь яшчэ не выйшла.

**«Regnum» (Расія)**

Цяперашняя палітыка Еўразаюза ў дачыненні да Беларусі не апраўдалася. Трэба прыняць іншую тактыку, напрыклад, зрабіць таннейшымі шэнгенскія візы для беларусаў, а з часам нават увесці бязвізавы рэжым і такім чынам адкрыць дарогі людзям для кантактаў.

**«15 минут» (Літва)**

Вочы нашага турыста, які патрапіў у сталіцу рэспублікі, не стамляюцца здзіўляцца адсутнасці многіх паўсядзённых атрыбутаў украінскай жыцця. Асляпляюць чысціня і незвычайная мернасць жыцця, што адразу палоніць сэрца ўкраінскага турыста, які ўпершыню апынуўся ў Беларусі. Але самі беларусы, асабліва маладое пакаленне, раяць не блытаць турызм з эміграцыяй. Кажуць, што калі і ёсць у рэспубліцы сацыялізм, то хіба што савецкага, а не еўрапейскага тыпу.

**«Аргументы и факты» (Украіна)**

Беларускі эканамічны цуд апошніх гадоў — медаль з двума бакамі. На адным баку Лукашэнкі, на другім — таксама Лукашэнка. На першым ён стаіць з працягнутай рукой, заззіраючы за сцяну Крамля, на другім раздае субсідыі збяднелай прамысловасці, распісвае працоўныя планы фабрыкам і заводам, рабочым і сялянам. Вонкавы бок медаля бачыць увесь свет. Эканоміка Беларусі цалкам залежыць ад настрою Масквы. Да апошняга часу кіраўніцтва РФ старанна падтрымлівала беларускую эканоміку.

**«Корреспондент» (Украіна)**

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### МАЛДОВА. ТЭРМІНОВА ШУКАЕМ КНЯЗЯ

У Малдове пачаў сваю дзейнасць манархічны рух імя Дзмітрыя Кантэміра. Адной з галоўных задач новай структуры будзе правядзенне ў бліжэйшы час інфармацыйна-арганізацыйнай канферэнцыі, «накіраванай на вывучэнне перадумоў адраджэння ў Малдове манархічнай формы праўлення, якая праіснавала ў Малдаўскім княстве больш за 500 гадоў». «Паколькі Малдова з'яўляецца гістарычнай правапераемніцай Малдаўскага княства (дадзены факт зафіксаваны ў Дэкларацыі аб незалежнасці Рэспублікі Малдова і прызнаны сусветнай супольнасцю), а манархічная форма праўлення існавала 510 гадоў з 654-гадовага перыяду развіцця малдаўскай дзяржаўнасці, дык можна з упэўненасцю сказаць, што традыцыйная манархія з'яўляецца гістарычна прымальнай і асноўнай формай праўлення для малдаўскай дзяржавы», — адзначаецца ў прэс-рэлізе руху. Згодна з планам манархістаў, у бліжэйшы час адбудзецца Міжнародны гістарычны кангрэс «Малдова–655», на які мяркуецца запрасіць прадстаўнікоў царскіх дынастый — нашчадкаў гаспадара Малдаўскага княства, якія пражываюць у цяперашні час як на тэрыторыі Малдовы, так і за яе межамі. Магчыма, па выніках сустрэчы будзе агучана прозвішча кандыдата на карону. З улікам цяперашняга палітычнага хаосу ў Малдове, шансы рэстаўрацыі манархіі выглядаюць не такімі ўжо ўтапічнымі.

**Паводле малдаўскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. ЧЫГУНКА СУПРАЦЬ АНГЛІЦЫЗМАЎ

Кіраўніцтва нямецкай чыгункі (Deutsche Bahn, або скарочана DB) прыняло рашэнне: супрацьстаяць выкарыстанню словаў англійскага паходжання. Апошнім часам англіцызмы актыўна пранікаюць у лексіку практычна ўсіх нямецкіх кампаній, і DB тут не выключэнне. Дастаткова сказаць, што білеты на цягнікі даўно пачалі называць на англійскі манер — «тыкет», што выклікае заканамерныя пратэсты аматараў нямецкай мовы. Яны аж з 2007 года вядуць грамадскую кампанію супраць моўнай асіміляцыі чыгункі, налічыўшы ў лексіконе DB 111 англійскіх словаў. І вось нарэшце перамога. Канкрэтным крокам у падтрымку матчынай мовы стане выданне кіраўніцтвам DB спецыяльнага слоўніка для супрацоўнікаў, з дапамогай якога чыгуначнікі змогуць выказаць сваю думку без ужывання мовы Шэкспіра. Між тым, правыя партыі лічаць усе мерапрыемствы DB штучнымі. Прынамсі, яны ўказваюць на тое, што назва вядомай катэгорыі рэйсаў Intercity-Express не будзе мяняцца. Міністр транспарту паведаміў, што назвы дадзенага тыпу пасажырскіх перавозак рэформа тычыцца не будзе.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ФРАНЦЫЯ. МАНДЭЛА ВЫКЛІКАЎ ТАПАГРАФІЧНУЮ РЭФОРМУ



Французскія патрыёты ў шоку. Вінсэнт Маро (Vincent Maurin), лідар фракцыі Партыі камуністаў Францыі ў гарадскім савеце горада Бардо, прапанаваў змяніць назву горада. І не проста змяніць, а назваць яго Мандэла ў гонар славутага барацьбіта з апартэідам і расізмам, які зараз знаходзіцца пры смерці. Сваю ініцыятыву камуніст матывуе тым, што Бардо ў XVII — XVIII стагоддзі быў адным з сусветных цэнтраў гандлю афрыканскімі рабамі. Як прызнаюць гісторыкі, менавіта гешэфты з продажу тых рабоў дазволілі гораду стварыць базавую інфраструктуру, якая забяспечыла яго росквіт у далейшым. Мэрыя горада, якой кіруе вядомы кансерватыўны палітык Алан Жупэ, пагадзілася з тым, што багацце горада ў свой час забяспечылі няшчасныя рабы. Аднак надаваць гораду новую назву мэр лічыць перагібам. Жупэ ў якасці кампенсацыі прапанаваў камуністам назваць у гонар Мандэлы адзін з новых мастоў. Ахвярай гэтай арыгінальнай дыскусіі стаў Жан-Жак Боск (Jean-Jacques Bosc) — вядучы камерсант у Бардо ў 20-х гадах XIX стагоддзя, у імя якога першапачаткова планавалі назваць новы мост.

**Паводле французскай прэсы**

### ТУРКМЕНІЯ. УСЯ ЎЛАДА ЎНУКАМ!

Керымгулы Бердымухамедава, 12-гадовага хлопчыка, унука цяперашняга туркменскага прэзідэнта Гурбангулы Бердымухамедава, напрыканцы чэрвеня доўга паказвалі па туркменскім тэлебачанні ў кампаніі сусветнай мега-зоркі Джэніфер Лопес. Тая прыехала на святкаванне 56-й гадавіны туркменскага гаранта. Цяпер усе толькі і кажуць пра тое, што з Керымгулы вырашылі рабіць «нашчадка». Пры гэтым невядома нават, чый гэта сын. У Бердымухамедава дзве дачкі і сын. Сын, Сердар, які вывучаў міжнародныя адносіны ў Маскве, у мінулым годзе працаваў у міністэрстве замежных спраў. Кажуць, што старэйшая дачка Гульджахан замужам за чыноўнікам, які працуе ў якасці прадстаўніка туркменскага дзяржаўнага агенцтва па кіраванні і выкарыстанні вуглевадародных рэсурсаў у Еўропе са штаб-кватэрай у Лондане. Пра трэцюю дачку ўвогуле нічога не вядома. Праўда, дэфіцыт інфармацыі пра Керымгулы — не падстава для таго, каб аспрэчваць яго шансы стаць наступным прэзідэнтам. Пра яго дзеда Гурбангулы да абрання на пасаду туркменскага гаранта ніхто таксама нічога дакладнага не ведаў.

**Паводле туркменскай прэсы**

ДЭБАТЫ

# ПРАВА НА РЫТУАЛЬНАЕ ЗАБОЙСТВА

*Алег НОВІКАЎ*




**Польскі Сейм прыняў папраўку ў адзін з параграфаў Закону аб ахове жывёл. Згодна з ёй, забараняецца рытуальнае ахвяраванне жывёл без аглушэння. Гэтаму рашэнню папярэднічалі даволі гарачыя дэбаты.**

Нагадаем, што рытуальныя забойствы жывёл практыкуюцца ў семіцкіх рэлігіях (іудаізм і іслам), прадстаўнікі якіх даўно жывуць у Польшчы і, адпаведна, даўно мелі права на правядзенне падобных актаў.

Яшчэ ў XIII стагоддзі кароль Баляслаў надаў яўрэйскім камунам Польскага каралеўства прывілей на вольную рэлігійную практыку, якая ўключала ў сябе права на рытуальнае забойства жывёл. Нягледзячы на росквіт антысемітызму ў сярэднявечныя часы, гэтая тэма антысеміты мала цікавіла. Затое з пачаткам эры гуманізму стаўленне да такой з'явы, як гвалт з жывёл, кардынальна змянілася. Этычныя адносіны да братоў меншых пачынаюць разглядаецца як важны элемент агульначалавечай маралі, што знайшло таксама праяўленне ў заканадаўчым працэсе ў краі.

У 1844 годзе адміністрацыя Царства Польскага выдала спецыяльную інструкцыю наконт таго, як праводзіць тыя самыя крывавыя рытуалы. Аўтары выказваліся за тое, каб забіваць жывёл «як мага хутчэй, каб ім не было балюча». У 1936 годзе сейм ухваліў спецыяльную пастанову пра ветэрынарны і адміністратыўны кантроль над рытуальнымі забойствамі жывёл. А ў часы сацыялістычнай Польшчы такой праблемы ўвогуле не існавала, паколькі сам іудаізм быў амаль палітычнай крамолай.

У 1997 годзе выдадзены ўжо ў дэмакратычнай Польшчы закон патрабаваў, каб жывёл забівалі выключна пасля таго, як яны страцяць прытомнасць. Для гэтага, як правіла, ахвяру спачатку патрэбна аглушыць. Паколькі ў сакральных тэкстах пра кашэрнае мяса папярэдняе аглушэнне ахвяры нічога не гаворыцца, некаторыя групы артадоксаў закон не прызналі.

У студзені гэтага года, пасля скаргі эколагаў, Канстытуцыйны суд канчаткова забараніў рытуальныя забойствы без аглушэння. Цяпер Сейм фактычна забараніў рытуальныя забойствы жывёл без папярэдняга аглушэння. На першы погляд, сфера дзейнасці, якую рэгулюе праект закона, мала цікавая для большасці палякаў. За выключэннем хіба што вернікаў згаданых вышэй культаў, а таксама абаронцаў правоў жывёл. Апошнія разгарнулі гэтым летам гучную кампанію супраць рытуалаў. Іх погляд на праблематыку зразумелы. Перарэзаць нажом, як патрабуе рытуал, горла жывой жывёле ў прысутнасці людзей — хіба гэта не ёсць варварства?

Аднак хутка дэбаты вакол рытуалаў выйшлі за рамкі асноўнага пытання — наколькі забарона рытуальных забойстваў парушае правы рэлігійнай камуны, якія гарантаваныя Канстытуцыяй? Прычынай стала новая інтэрпрэтацыя пытання з боку праціўнікаў папраўкі. Яны даводзілі, што галоўным матывам іх апанентаў ёсць латэнтны антысемітызм. Антысеміцкі бэкграўнд сапраўды прысутнічае ў частцы дэпутатаў правых партый, якія дружна выступілі ў абарону правоў жывёл. Аднак у дадзеным выпадку такая пастаноўка пытання развязала рукі ксенафобам, якія атрымалі апраўданне для сваёй агрэсіі.

Антысеміцкія выразы пад соусам абароны праў жывёл апошнім часам часта можна было сустрэць на шматлікіх польскіх інтэрнэт-форумах. Яшчэ больш антысеміцкі кураж выклікала ўльтыматыўная заява галоўнага польскага равіна Міхала Шудрыха, які паабяцаў пайсці ў адстаўку і з'ехаць з краіны, калі не будзе лібералізацыі закона аб рытуальных забойствах жывёл.

Такога кроку не зразумелі нават ліберальныя СМІ, якіх цяжка абвінаваціць у прапагандзе ксенафобіі. «Gazeta Wyborcza» адзначала: «Тое, што кажа равін Шудрых, — амаральна з двух пунктаў. Па-першае, гэта абарона брутальнай рэлігійнай традыцыі, якая дрэнная сама па сабе. Па-другое, ён абвінавачвае ў антысемітызме людзей, якія самі часта былі ахвярамі яго палітыкі. Яго словы пра намер выехаць з Польшчы, калі не будзе выканана яго пажаданне, нагадваюць звычайны шантаж. Рэлігійны фанатызм у чыстым выглядзе». Адным словам, грамадская думка аказалася на баку прыхільнікаў кантролю за рытуаламі.

Праўда, барацьба вакол рытуалаў працягваецца і пасля галасавання 11 ліпеня. Цяпер Варшава аказалася пад дыпламатычным прэсінгам Тэль-Авіву, які вінаваціць яе ў парушэнні правоў яўрэйскай камуны. Працягвае рабіць гнеўныя заявы і равін Шудрых. Так, ён паведаміў, што «яўрэйская і ісламская грамады Польшчы аказаліся пад пагрозай існавання».

Праўда, з мусульманамі ўсё прасцей. Хаця закон ад 1936 года дае ім поўную аўтаномію ў пытанні, як трэба рыхтаваць ахвяру, ісламская грамада дастаткова спакойна ўспрыняла дыскусію пра неабходнасць пераменаў. Магчыма, польскія мусульмане, якіх вельмі мала, арыентуюцца на краіны Заходняй Еўропы, дзе даўно дасягнуты кампраміс паміж ісламскімі вернікамі і дзяржавай у гэтым пытанні. У Вялікабрытаніі, Германіі і Даніі распрацаваны метад аглушэння, які не супярэчыць рэлігійным догмам.

Аднак значна большае значэнне на будучыню польскай палітыкі ў галіне рытуальных забойстваў мае эканамічны аспект праблемы. Аказваецца, продаж «кашэрнага» і «халяльнага» мяса штогод прыносіць Польшчы каля 200 мільёнаў еўра. Мясцовыя бойні экспартуюць прадукцыю ў Ізраіль і Турцыю. Таму міністэрства аграрнай палітыкі на восень мінулага года выдала 17 прадпрыемствам ліцэнзію на адмысловы забой жывёл. Цяпер з-за новага закону іх могуць не прызнаць адпаведнымі стандартам.

Наступны аспект звязаны з супярэчлівай рыторыкай улады, якая, быццам, абараняе правы жывёл. Палітыкі, якія выступалі за папраўку, дыскутуючы з праціўнікамі кантролю над рытуаламі, указвалі на тое, што рытуальнае забойства жывёл у Польшчы цалкам не забаронена. Як і раней, ахвяраванні дапускаюцца, аднак толькі «з улікам прынцыпаў публічнай маралі ў выглядзе нормы «папярэдняга аглушэння».

Аднак парадокс у тым, што наўрад ці публічная мараль у Польшчы прызнае практыку папярэдняга аглушэння падчас рэлігійных рытуалаў. У сваёй пераважнай масе палякі за поўную забарону рытуальных забойстваў жывёл. Пра гэта, прынамсі, сведчаць вынікі практычна ўсіх сацыялагічных апытанняў.

Відавочна, што са спасылкай на такія настроі эколагі будуць патрабаваць цалкам забараніць прынясенне жывёл у ахвяру. На першы погляд, прагрэсіўная ідэя можа выклікаць канфлікт з Еўрасаюзам, дзе права на рытуальныя забойства жывёл у прынцыпе прызнаецца, хаця яно і абмежаванае шматлікімі нормамі.

ПАРТЫІ

# ПІРАЦКІ СУІЦЫД

Алег НОВІКАЎ

**Скандал з праслухоўваннем амерыканскімі спецслужбамі замежнікаў узняў інтарэс да тэмы абароны прыватнай прасторы ў інтэрнэце. Гэта дало нямецкай Партыі піратаў унікальны шанец трапіць на восеньскіх выбарах у Бундэстаг.**




Ужо прыкладна месяц, як дзякуючы сенсацыйным споведзям Эдварда Сноўдэна тэма праслухоўвання ў інтэрнэце — адна з топавых у Германіі. Пра гэта добра сведчыць статыстыка ў нямецкай зоне Twitter. Паўмільёна паведамленняў, дасланых за апошні месяц, былі прысвечаныя Prism і Tempora — кампутарным праграмам, з дапамогай якіх Агенцтва нацыянальнай бяспекі (NSA) можа сачыць за прыватнай камунікацыяй. Штодня твітаў пра тое, што ўсе карыстальнікі інтэрнэту так ці інакш пад каўпаком NSA, набіраецца ў ФРГ пад 60 тысяч.

Такі вялізарны інтарэс да тэмы абароны права на прыватнае ў сеціве стварыў цудоўную кан'юнктуру для Партыі піратаў. Як вядома, ледзь не галоўным лозунгам гэтай створанай у 2006 годзе структуры ёсць абарона прыватнай інфармацыі (у праграме Партыі піратаў гэта называецца «Права на вольная інфармацыйнае самавызначэнне»). Акрамя таго, Эдвард Сноўдэн выдаў сакрэты амерыканскіх спецслужбаў у вельмі спрыяльны для Партыі піратаў час. На двары кампанія па выбарах у Бундэстаг, якія адбудуцца прыкладна праз два месяцы.

«Піраты» ўжо не былі фаварытамі выбараў, хаця яшчэ два гады таму папулярнасць інтэрнэт-партыі сярод немцаў даходзіла да 12–13 працэнтаў. Яны перамагалі на муніцыпальных і зямельных выбарах, а некаторыя бачылі ў іх мадэль партыі XXI стагоддзя. Аднак цяпер узровень падтрымкі Партыі піратаў не пераходзіць адзнакі ў 1,5–2 працэнты (прахадны бар'ер у нямецкі парламент, як вядома складае, 5 працэнтаў).

Палітолагі выдаюць цэлы блок адказаў на пытанне, як «піраты» за кароткі тэрмін прафукалі такі высокі рэйтынг? Галоўная прычына — у стратэгічнай памылцы ідэолагаў «піцрацтва». Іх ідэя: стварыць новую грамадскую адміністрацыю з дапамогай сродкаў, якія прапануе інтэрнэт, аказалася правальнай. Выявілася, што інтэрнэт у цяперашнім заходнім грамадстве сам па сабе — не сродак дэмакратыі. Без інтэрнэту цяпер проста нельга існаваць. Таму ім карыстаюцца ў сваіх інтарэсах як заўзятыя дэмакраты, так і заўзятыя праціўнікі дэмакратыі. Спроба сабраць усіх карыстальнікаў інтэрнэту пад дах адной партыі закончылася хаосам або непрадказальнымі сюжэтамі.

Так, нейкім чынам найбольш кансалідаванай групай сярод «піратаў» на іх форумах аказалася тусоўка крытыкаў фемінізму. Яны навязалі партыі абсалютна экзатычную дыскусію пра неабходнасць скасавання ў хуткім будучым дэфініцый «мужчына» і «жанчына». Прапанавалася ўвесці на ўзроўні партыйнага статуту пункт, які патрабуе ад сяброў партыі называць адзін аднаго проста «пірат». Спрэчкі вакол постфемінізму былі відавочным сектанцтвам (як паказвалі апытанні, толькі 6 працэнтаў сяброў Партыі піратаў цікавіліся падобнымі тэмамі). Затое вялікі інтарэс да постфемінізму праявілі змагары з цэнзурай супраць парнаграфіі, якую даўно патрабуюць увесці феміністкі.

**Палітолагі выдаюць цэлы блок адказаў на пытанне, як «піраты» за вельмі кароткі тэрмін прафукалі такі высокі рэйтынг?**

Памылковы прынцып вызначэння новага прагрэсіўнага суб'екта гісторыі (хто карыстаецца інтэрнэтам — той добры), спрыяў і з'яўленню ў шэрагах «піратаў» неанацыстаў, якія даўно ўжо мараць пра рэвізію цяперашняй нямецкай партыйнай сістэмы, якая склалася на пачатку 1990-х. Ужо больш за 20 гадоў у Бундэстаг трапляе адзін і той жа набор партый: эсдэкі, кансерватары, Зялёныя, левыя і лібералы. Пасля таго, як спробы неанацыстаў самастойна прарвацца ў Бундэстаг, правальіліся, яны пачалі актыўна абмяркоўваць тэзіс пра тактычную неабходнасць падтрымкі кожнай альтэрнатыўнай партыі, якая выступае супраць партыйнага істэблішменту.

Як толькі пірацкі праект выйшаў за межы субкультуры юзераў, шматлікія «карычневыя» перафарбаваліся ў «аранжавых» (аранжавы — партыйны колер нямецкіх «піратаў»). Адпаведна, ад лідараў руху за вольны інтэрнэт часта можна было пачуць шакуючыя сентэнцыі. Напрыклад, пра тое, што Гітлер меў права атакаваць Польшчу ў 1939 годзе, паколькі палякі абвясцілі агульную мабілізацыю.

Праўда, і прасунутыя юзеры, з якіх рэкрутаваліся лідары Партыі піратаў, аказаліся «чайнікамі» ў палітыцы. Так, адзін з піратаў даў інтэрв'ю неанацысцкай газеце, нават не ведаючы пазіцыю выдання. Іншы заявіў, што разумее матывы арабскіх тэрарыстаў, якія змагаюцца з Ізраілем. Гэтыя і іншыя тырады выклікалі скандалы ў прэсе, пасля якіх пачаўся шлейф разборак і партыйных чыстак. Дайшло да таго, што пірацкае маладзевае крыло — Маладыя піраты — прыняло рэзалюцыю, у якой назвала ўсіх старэйшых таварышаў «нацыстамі і расістамі». Напэўна, лепшым дыягназам сітуацыі ў пірацкіх партструктурах ёсць загаловак артыкулу, прысвечанага «піратам», у папулярным часопісе «Spiegel» «Тут-тук. Ці ёсць хто дома?».

Аднак сёння фартуна дала «піратам» яшчэ адзін шанец у выглядзе тых самых сноўдэнаўскіх выкрыццяў. Трэба прызнаць, што «піраты» ўчапіліся за яго абедзвюма рукамі. Імі ініцыяваная анлайн-петыцыя, адрасаваная Бараку Абаму з патрабаваннем прыпыніць шпіёнскія аперацыі ў сеціве, якую ўжо падпісала больш за 40 тысяч чалавек. Адначасова пры партыі створаны спецыяльны дэпартамент праграмістаў, які б'ецца над задачай распрацоўкі праграмы, здольнай абараніць асабістую электронную скрыню ад цэнзараў з Лэнглі (месца, дзе знаходзіцца галоўны офіс ЦРУ). Лідары партыі пачалі часцей свяціцца на экранах тэлевізараў у рознага кшталту ток-шоў. У некаторых гарадах Германіі імі былі арганізаваныя маніфестацыі каля дыпламатычных прадстаўніцтваў ЗША. Найбольшая дэманстрацыя прайшла ў Берліне ў дзень візіту амерыканскага гаранта.

Аднак пакуль, падаецца, каэфіцыент карыснага дзеяння ад такой актыўнасці практычна нулявы. Ужо месяц грамадства жыве афёрай Сноўдэна, аднак рэйтынг «піратаў» не зашкальвае. Большасць каментатараў не вераць у здольнасць «піратаў» рэабілітавацца ў вачах страчанага імі электарату, які проста перастаў ідэнтыфікаваць сябе з Партыяй піратаў.

Хаця, магчыма, абвінавачваць «піратаў» няма ў чым. Палітолагі звяртаюць увагу на сумны вынік іншай ініцыятывы, якая таксама, быццам, магла скласці канкурэнцыю традыцыйным партыям. «Альтэрнатыва за Германію», якая эксплуатуе настальгію бюргераў па нямецкай марцы і страх перад еўра, была створаная ў сакавіку і, паводле першых даследаванняў сацыёлагаў, таксама мела добрыя шансы трапіць увосень у Бундэстаг. Аднак мода на палітычны еўраскептыцызм аказалася часовай. Максімум еўраскептыкі набяруць увосень каля 2–3 працэнтаў. Вось такая яна — загадкавая нямецкая душа: гучна пратэставаць, пакуль не пачне набліжацца дзень галасавання, калі трэба забыць пра эмоцыі і прагаласаваць за сур'ёзную партыю.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### БІДЗІНА ІВАІШВІЛІ



Блізкія да Міхаіла Саакашвілі СМІ абвінавацілі прэм'ера Грузіі ў падрыхтоўцы рэканструкцыі помніка Сталіну на яго радзіме ў горадзе Горы (як вядома, помнік дэмантавалі па асабістаму загаду Саакашвілі, каб зрабіць з яго экспанат музея акупацыі Грузіі). Непасрэднай падставай для заявы пра сталінафільскія пачуцці прэм'ера стала маштабная акцыя за аднаўленне манумента «правадыра», якая на днях пра прайшла ў Горы. У маніфестацыі ўдзельнічалі не толькі тутэйшыя сталіністы, аднак і іх аднадумцы з іншых рэгіёнаў Грузіі, што сведчыць пра добрае фінансаванне мерапрыемства. Паколькі сваіх грошай у грузінскіх камуністаў мала, адразу спонсарства прыпісалі Іванішвілі. Чаму менавіта яму, а не іншаму алігарху? Проста аднаўленне помніка магло б узмацніць сімпатыі да грузінскага ўраду ў Маскве, з якой Тбілісі цяпер спрабуе наладзіць дыялог. Відавочна, што ў Расіі, дзе культ Сталіна перажывае сапраўдны рэнесанс, пазітыўна ацэняць навіну пра аднаўленне сталінскага манументу ў Горы. Праўда, не выключана, што Іванішвілі, калі ён сапраўды санкцыянаваў акцыю ў Горы, цікавіць толькі піяр. Паводле ўсіх апытанняў, каля 80 працэнтаў жыхароў Горы і 75 працэнтаў грузін не маюць нічога супраць вяртання помніка «Бацькі ўсіх народаў» на былое месца. Што тычыцца згаданага мітынгу, то ён закончыўся стварэннем камітэту, які будзе каардынаваць кампанію за аднаўленне помніка.

### ШЭЙХ АХМЕД МАДОБЕ

Лідар вайсковай групоўкі, якая кантралюе паўднёвую частку Самалі — правінцыю Юбалэнд (Jubaland), на мінулым тыдні нечакана для ўсіх заявіў пра намер стварыць на базе падкантрольнай яму зоны незалежную дзяржаву. Маніфест пра магчымае з'яўленне на карце новай дзяржавы шакаваў вялікую групу міжнародных дыпламатаў, якія ўжо год намагаюцца неяк стабілізаваць сітуацыю ў краіне, дзе гадоў 20 цягнецца грамадзянская вайна.



Быццам, узніклі першыя падставы казаць пра прыход палітычнаму міру, і тут з'яўляецца Мадобе. Нагадаем, што і без яго Самалі пакутуе ад сепаратыстаў. Раней як мінімум тры самалійскія рэгіёны патрабавалі ад міжнародных структур прызнаць іх асобнымі дзяржаўнымі адзінкамі. Сімвалічна, што Мадобе пасля абвяшчэння незалежнасці наведаў Путлэнд — яшчэ адну самаабвешчаную на тэрыторыі Самалі дзяржаву. Аднак самая галоўная праблема ў іншым. На поўдні краіны знаходзяцца базы кенійскіх войскаў, якія, быццам, з санкцыі АНН дапамагаюць мясцовым уладам падтрымліваць парадак. Каментатары не выключаюць, што ідэя самастойнага Юбалэнду нарадзілася ў Найробі, які хоча атрымаць рукамі Мадобе выхад да Індыйскага акіяна. У такім разе самалійскі ўнутраны канфлікт можа перарасці ў міжнародны.

### ЭВА МАРАЛЕС



8 ліпеня самалёту прэзідэнта Балівіі забаранілі пралятаць над тэрыторыяй Іспаніі і Францыі. Матывам для падобнага рашэння была версія пра тое, што Эва ляціць не адзін, а ў кампаніі з Эдвардам Сноўдэнам. Гэты інцыдэнт стаў прычынай жорсткіх дыпламатычных нот Ла-Паса на адрас Мадрыда і Парыжа. У дадатак ён выклікаў у краіне хвалю салідарнасці з «пакрыўджаным лідарам». Балівійцы, нягледзячы на сімпатыі, згодныя з тым, што так ставіцца да дэмакратычна абранага кіраўніка нельга. У шматлікіх гарадах Балівіі прайшлі дэманстрацыі, на якіх рашуча асудзілі «пеонаў імперыялізму» (так афіцыйная прэса называе іспанскія ўлады). Апазіцыя прызнаецца, што ў такой атмасферы ўлады могуць абвінаваціць яе лідараў у сувязі з замежнымі цэнтрамі і кінуць за краты, прычым пад радасныя крыкі грамадзян. Аднак самае цікавае ў гэтым тое, што інцыдэнт з самалётам даў шансы Маралесу на чарговае пераабранне. Напярэдадні апісанай гісторыі яго рэйтынг складаў каля 35 працэнтаў, і апазіцыя пры ўмове выстаўлення адзінага кандыдата мела шансы на перамогу. Аднак у кантэксце апошніх падзей у асяроддзі антымаралістаў узнікла фракцыя, якая лічыць, што цяпер крытыкаваць прэзідэнта неэтычна. Нагадаем, што выбары прэзідэнта Балівіі адбудуцца ў наступным годзе. Маралес будзе балатавацца на вышэйшую ў краіне пасаду ў трэці раз.

ЦІКАВА

# ПОЛЬСКІЯ КАЛАНІЯЛЬНЫЯ МАРЫ

Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Ужо ў 1918 годзе ў польскіх палітычных колах пачалі агучвацца думкі пра неабходнасць здабыцця тэрыторый на іншых кантынентах. Вайна з бальшавіцкай Расіяй прымусіла палякаў заняцца абаронай сваёй уласнай тэрыторыі. Але мара пра калоніі засталася.**

## Паспяховы нацыянальны праект

У 1920-я гады ў ІІ Рэчы Паспалітай з'явіўся шэраг арганізацый, якія актыўна займаліся прапагандай польскіх каланізацыйных планаў. Так, у 1926 годзе быў створаны Навуковы інстытут па вывучэнні эміграцыі і каланізацыі, а ў 1928-м — Саюз каланіяльных піянераў. Аднак найбольш важнай арганізацыяй у гэтай сферы была Марская і каланіяльная ліга (МКЛ), створаная на базе Марской і рачной лігі. 8 лістапада 1930 года, старшынёй яе праўлення стаў генерал Войска Польскага Густаў Орліч-Дрэшар (трагічна загінуў у 1936 годзе).

Менавіта гэты чалавек ператварыў звычайную рэгіянальную арганізацыю ў паспяховы нацыянальны праект, лейтматывам дзейнасці якога стала ідэя пра тое, што Польшча — гэта не краіна другога свету і не задворкі Еўропы, а моцны ігрок на міжнароднай геапалітычнай арэне.

У статуце МКЛ, у прыватнасці, адзначалася, што арганізацыя імкнулася да распаўсюджвання ведаў па марской, рачной і эміграцыйна-каланіяльнай тэматыцы. Акрамя гэтага Марская і каланіяльная ліга імкнулася да развіцця польскага гандлёвага і вайсковага флоту. Важным момантам у яе дзейнасці была падтрымка кантактаў з польскімі эмігрантамі ў іншых краінах. Нарэшце, самым галоўным быў пошук новых тэрыторый для польскай нацыянальнай і гаспадарчай экспансіі. Калі ў 1933 годзе колькасць сябраў МКЛ была 706 30 чалавек, то ў 1937 годзе ў складзе арганізацыі было ўжо 535 237 сябраў, а на 1 чэрвеня 1939 года сябро́ўскія пасведчанні МКЛ мелі 992 780 чалавек.

Акрамя гэтага, Марская і каланіяльная ліга была і вельмі багатай арганізацыяй. Напрыклад, у канцы верасня 1937 года бюджэт МКЛ у Віленскім ваяводстве складаў 8 мільёнаў злотых, у Навагрудскім 2 200 мільёнаў злотых і ў Палескім 2 300 мільёнаў злотых. І гэта ў небагатай Заходняй Беларусі. Атрыманыя грошы МКЛ накіроўвала на фінансаванне ВМФ, а таксама… на вырашэнне каланіяльных патрэб сваёй дзяржавы.

## Бразільская зямля за польскія грошы

У пачатку 1930-х гадоў у Германіі набіраюць сілу выступленні за вяртанне тэрыторый, якія пасля Першай сусветнай вайны аказаліся ў складзе Польшчы. У адказ польскі бок пачынае раскручваць кампанію па перагляду права на былыя нямецкія калоніі ў Афрыцы. Акрамя гэтага, у 1934 годзе МКЛ выкупіла частку бразільскага штата Парана і стварыла там паселішча польскіх каланістаў «Марская Воля». Палякі збіраліся набыць 2 мільёны гектараў на будаўніцтва жылля і гаспадарчых пабудоў, а таксама мелі намер пабудаваць чыгуначную лінію Рыазін'ё-Гуарапува працягласцю 138 кіламетраў, якая павінна была звязаць польскія пасяленні з бразільскімі гарадамі. «Марская Воля» падзялялася на дзве часткі: гарадскую і вясковую. У 1936 годзе там жылі 75 польскіх сямей.

Хутка МКЛ набыла яшчэ адзін участак у штаце Парана. Пазней ад будаўніцтва чыгункі давялося адмовіцца. Больш таго, урад Бразіліі зразумеў, што такія гульні з зямельнай маёмасцю могуць прывесці да страты гэтых тэрыторый на карысць Польшчы. Краіны знаходзіліся на парозе вайны, аднак «маёмасныя спрэчкі» ўдалося вырашыць мірным шляхам. Падчас Другой сусветнай вайны польскія паселішчы прыйшлі ў заняпад, а бразільскія ўлады забаранілі ўсе праявы польскасці на гэтых тэрыторыях.

## Калоніі ў Афрыцы

Кіраўніцтва МКЛ правяло перамовы з Ліберыяй, якія скончыліся падпісаннем дамовы пра двухбаковае супрацоўніцтва. Некаторыя польскія даследчыкі лічаць, што ў гэтага дакумента была тайная частка, якая дазваляла палякам не толькі развіццё сваіх паселішчаў, але і давала магчымасць польскаму ўраду арганізоўваць мабілізацыю грамадзян Ліберыі ў Войска Польскае. Пазней ІІ Рэч Паспалітая адмовілася ад ратыфікацыі гэтай дамовы. Як кажуць, з-за таго, што ў дакуменце адсутнічала фраза пра тое, што «Ліберыя становіцца пратэктаратам Польшчы».

Польскі бок разглядаў планы каланізацыі Анголы, якая належала Партугаліі. У красавіку 1928 года сябар звязанага з Марской і рачной лігай Саюза каланіяльных піянераў Казімеж Глухоўскі накіраваўся ў Лісабон і сустрэўся з прадстаўнікамі партугальскага ўраду. У снежні таго ж года ў Анголу накіравалася польская навуковая экспедыцыя пад кіраўніцтвам Францішка Лыпа. Галоўнай мэтай паездкі было даследаванне тэрыторыі афрыканскай краіны і пошук месцаў, якія б падыходзілі для польскіх паселішчаў.

Па выніках экспедыцыі палякам стала зразумела, што Ангола не вельмі падыходзіць для масавай каланізацыі, але там можна было развіваць буйныя сельскагаспадарчыя плантацыі. Ужо ў 1929 годзе пачынаюцца перамовы з урадам Партугаліі наконт заключэння гандлёвай дамовы і атрымання дазволу для польскіх грамадзян сяліцца ў Анголе.

Паралельна ў Польшчы ствараецца арганізацыя «Полангола», якая павінна была курыраваць гандлёвыя адносіны паміж Польшчай і Партугаліяй. У снежні 1929 года ў гэтай афрыканскай краіне з'яўляецца плантацыя графа Адама Замойскага. Пазней да яго далучыўся яшчэ дзясятак багатых палякаў. Плантатары вырошчвалі каву, какаву, збожжавыя культуры. У Анголу пачалі прыязджаць польскія турысты. Паралельна палякі спрабавалі «ўкараніцца» ў партугальскім Мазамбіку.

Актыўнасць Польшчы напалохала ўрад Партугаліі, і Лісабон адмовіўся ад пункта дамовы наконт дазволу масавага перасялення польскіх грамадзян у партугальскія калоніі ў Афрыцы.

## Ідэя «калоній для Польшчы» — у масы

Багатая і ўплывовая Марская і каланіяльная ліга праводзіла актыўную работу з польскім грамадствам. У 1932 годзе было праведзена свята мора ў Гдыні. Арганізацыя ўклала значныя фінансавыя сродкі на будаўніцтва інфраструктуры порту ў гэтым горадзе. У 1937 годзе адбылася буйная выстава малюнкаў марской тэматыкі ў Варшаве, а ў наступным годзе такое ж мерапрыемства адбылася і ў Кракаве.

Актыўна дзейнічала МКЛ і на тэрыторыі Заходняй Беларусі. На возеры Нарач у Віленскім ваяводстве знаходзілася галоўная рачная база лігі, дзе праводзіліся розныя масавыя мерапрыемствы. Арганізацыя збірала сродкі ў Фонд марской абароны. Адным з вынікаў гэтай працы было фінансаванне будаўніцтва для польскага ВМФ крэйсера «Арол». У красавіку 1938 года ў Польшчы прайшоў так званы «Дзень калоній», падчас якога ў розных польскіх гарадах адбыліся святочныя шэсці і парады.

Галоўнымі друкаванымі органамі МКЛ былі штомесячны часопіс «Мора» і квартальнік «Марскія і каланіяльныя справы». Гэтыя выданні распаўсюджваліся перш за ўсё ў школах і грамадскіх установах. Львіная доля публікацый у іх была прысвечана каланіяльнай тэматыцы.

У адным з нумароў часопіса «Мора» за 1935 год журналіст пісаў: «Мы, палякі, як і італьянцы, стаім перад вялікай праблемай размяшчэння і выкарыстання насельніцтва, што хутка павялічваецца. Мы, палякі, як і італьянцы, маем права патрабаваць, каб для нас былі адчыненыя рынкі экспарту і рэгіёны для пасялення, каб мы маглі атрымліваць сыравіну, неабходную для нацыянальнай эканомікі на ўмовах, на якіх гэта робяць іншыя каланіяльныя дзяржавы». У адным з нумароў гэтага ж часопісу за 1937 год аўтар адзначаў, што «ІІ Рэч Паспалітая з'яўляецца моцнай еўрапейскай дзяржавай, якой неабходна мець заморскія калоніі для вырашэння сваіх унутраных і знешніх праблем».

Напярэдадні Другой сусветнай вайны ў польскіх палітычных колах вельмі сур'ёзна абмяркоўвалася магчымасць адпраўкі габрэйскага насельніцтва Польшчы ў заморскія калоніі. На адным з пасяджэнняў польскага сейма ў лістападзе 1938 года было заяўлена пра неабходнасць памяншэння колькасці гэтай катэгорыі польскіх грамадзян за кошт эміграцыі на новыя тэрыторыі, у прыватнасці, на Мадагаскар.

Відавочна, што на гэтую справу аказвала ўплыў складанае міжнароднае становішча і антыгабрэйская палітыка ў Трэцім Рэйху. Рэалізаваць гэтую небяспрэчную ідэю палякі не паспелі. 1 верасня 1939 года пачалася Другая сусветная вайна, якая паставіла канчатковы крыж на польскіх каланіяльных праектах.




Па выніках экспедыцыі палякам стала зразумела, што Ангола не вельмі падыходзіць для масавай каланізацыі, але там можна было развіваць буйныя сельскагаспадарчыя плантацыі




**Больш унікальных фота глядзіце на нашым сайце novychas.info**

СПАДЧЫНА

# АПОШНЯЕ ВЯРТАННЕ МІХАЛА ФЕДАРОЎСКАГА Ў ВАРШАВУ

Сяргей ЧЫГРЫН

**Беларускаму і польскаму фалькларысту, этнографу, археолагу, краязнаўцу і калекцыянеру Міхалу Федароўскаму (1853–1923) належыць адно з самых пачэсных месцаў сярод працаўнікоў на ніве беларускай этнаграфіі і фалькларыстыкі, сярод даследчыкаў, якія паклалі тытанічную працу над выяўленнем мастацкіх здабыткаў беларускага народа і тым самым прычыніліся да паўнейшага раскрыцця духоўнага вобліку беларускага народа перад усім светам.**



Так пра Міхала Федароўскага сказаў даследчык яго творчасці, кандыдат філалагічных навук Янка Саламевіч. Шматтомная праца «Люд беларускі» Міхала Федароўскага — гэта сапраўдная скарбніца духоўнай творчасці народа, у якой сабраны і апублікаваны тысячы песень і казак, вераванняў і забабонаў, прыказак і загадак, паданняў, легенд, анекдотаў, прыпевак, што стварала творчая фантазія нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў. Таму нездарма вялікі беларускі паэт Уладзімір Дубоўка назваў Федароўскага збіральнікам жэмчугу.

Жыццё і дзейнасць збіральніка жэмчугу былі непарыўна звязаныя з Варшавай і з беларусамі, якія там жылі напачатку ХХ стагоддзя. Варшава з'яўляецца радзімай Міхала Федароўскага, дзе ён нарадзіўся 1 верасня 1853 года. Бацька яго Адольф па нацыянальнасці быў кашубам, прымаў актыўны ўдзел у паўстанні 1863–1864 гадоў, пасля якога эмігрыраваў у Францыю і хутка пакінуў сям'ю. А ў 1870 годзе падчас франка-прускай вайны загінуў у бітве пад Арлеанам.

Маці Элеанора выхоўвала сына адна, праўда, дапамагалі і яе бацькі. Калі Міхал падрос, скончыў чацвёрты клас мужчынскай прагімназіі з рускай мовай навучання ў Варшаве. Тады юнак і зацікавіўся фальклорам, у прыватнасці прыказкамі і фразеалагізмамі, запісваў іх ад варшавян. У 1873–1874 гадах быў вольным слухачом Пятроўска-Разумоўскай акадэміі пад Масквой.

У 1877 годзе Міхал Федароўскі выехаў у Заходнюю Беларусь. На працягу 17 гадоў ад Беласточчыны да Случчыны ён паглыблена даследаваў духоўную і матэрыяльную культуру беларускага народа, збіраў этнаграфічныя матэрыялы, экспанаты, кнігі, гістарычныя дакументы, творы жывапісу і графікі, раскопваў курганы, старажытныя паселішчы, могільнікі, накопліваў матэрыял да археалагічнай карты дагістарычнай Беларусі і г.д.

Сабраў больш за 5 000 беларускіх песень каляндарнага і сямейна-абрадавага цыклаў, запісаў больш за 10 тысяч прыказак, больш за 500 загадак, сотні чарадзейных, сацыяльна-бытавых, сатырычных і іншых казак, легенд, паданняў, анекдотаў, жартаў, гумарэсак, народных павер'яў, забабонаў, прымхаў, парадаў па народнай медыцыне і г.д. Шмат этнаграфічных запісаў, археалагічных экспанатаў дасылаў Зігмунту Глогеру ў яго маёнтак Яжэва на Беласточчыне, дарыў навуковым установам.

У 1904 годзе Міхал Федароўскі назаўсёды вяртаецца ў Варшаву. 10 траўня 1904 года «Gazeta Polska» (№129) паведамляла, што ў Варшаву пераехаў вядомы этнограф і археолаг, аўтар вялікай працы пад назвай «Люд беларускі» Міхал Федароўскі. Збіральнік прывёз з сабой багатыя калекцыі археалагічных экспанатаў, сабраных на Беларусі, некалькі тысяч навуковых кніг пераважна з XVIII–XIX стагоддзяў, больш за 5 000 гравюр, велізарнейшую калекцыю гістарычных дакументаў і прыватных пісем XVII і XVIII стагоддзяў з архіваў Пацаў, Пацеяў, Храптовічаў, Сапегаў, сабраных ім на застрэшшах і ў куфрах шляхецкіх двароў, фальваркаў і засценкаў.

Дарэчы, першы том «Люду беларускага» атрымаў высокую ацэнку расійскіх, польскіх, украінскіх, чэшскіх вучоных. Дзесяць гадоў Кракаўская Акадэмія шукала сродкі, каб выдаць рукапісы наступных тамоў. Другі том выйшаў у 1902 годзе. У ім надрукавана 410 казак, паданні пра мясцовасці. Трэці том выйшаў у 1903 годзе. У яго ўвайшлі гістарычныя і мясцовыя паданні, гумарыстычныя апавяданні і гісторыі з паўсядзённага жыцця. Ёсць тут казкі і показкі. Федароўскі дадаў сюды і матэрыялы са Слуцкага і Наваградскага паветаў.

Пераехаўшы ў Варшаву, Міхал Федароўскі пачаў апрацоўваць сабраныя на Беларусі прыказкі. Потым заняўся класіфікацыяй, апрацоўкай і падрыхтоўкай да друку вялікага збору беларускіх народных песень. Але ўсё гэта яму зрабіць было няпроста, таму ў Варшаве ён шукаў памочнікаў.

Першай памочніцай Міхала Федароўскага ў апрацоўцы беларускага фальклору ў Варшаве была Лідзія Падул. Дзяўчына з Лідскага павета вучылася ў Варшаўскай кансерваторыі. Па ўспамінах Янкі Саламевіча, даследчыка творчасці Федароўскага, Лідзія Падул нават запісала 7 песень для Федароўскага ў Лідскім павеце. Дзяўчына шмат дапамагала фалькларысту, нават пэўны час жыла ў яго на кватэры. Але больш звестак пра Лідзію Падул адшукаць не ўдалося. Магчыма, пасля заканчэння кансерваторыі яна пакінула Варшаву.

Вельмі часта ў Міхала Федароўскага бываў Рамуальд Зямкевіч — беларускі бібліяфіл, бібліёграф, публіцыст, гісторык і калекцыянер, які жыў у Варшаве. Ён пазнаёміўся з Федароўскім у 1905 годзе. Рамуальда Зямкевіча найперш цікавілі антыкварныя калекцыі Федароўскага. Вядома, ён шмат дапамагаў у апісанні і класіфікацыі сабранага ім матэрыялу, нешта купляў у Федароўскага, нешта абменьваў і нават мог скрасці. Гэта была яго хвароба, як згадваў Сяргей Хмара. У 1931–1935 гадах Рамуальд Зямкевіч вёў карэктуру чацвёртага тома працы «Люд беларускі».

Часта ў доме Міхала Федароўскага заседжваўся беларускі паэт са Слоніма Гальяш Леўчык, які тады жыў у Варшаве. Яму як нікому іншаму найбольш давяраў пан Федароўскі. Гальяш Леўчык шмат дапамагаў яму, дапамагаў шчыра і аддана. Многа кніг са сваёй сабранай бібліятэкі Міхал Федароўскі проста падараваў Гальяшу Леўчыку. І калі хто з беларусаў бываў тады ў Гальяша ў маленькай кватэрцы ў Варшаве на вуліцы Леапальдына, 35, дык бачыў сярод шматлікіх кніг і тры тамы «Люду беларускага» з аўтографамі Федароўскага, падараваныя Гальяшу Леўчыку.

Жывучы стала ў Варшаве, Міхал Федароўскі па-ранейшаму не забываў Беларусь. Ён працягваў і ў Варшаве збіраць беларускія матэрыялы, прасіў знаёмых дасылаць яму ўсё беларускае. Напрыклад, у 1908 годзе ў лісце да Цэцыліі Снягоцкай са Львова Федароўскі просіць дасылаць яму кніжачкі, якія тычацца Русі Літоўскай.

З Варшавы Міхал Федароўскі вядзе вялікую перапіску з супрацоўнікамі «Нашай Нівы», «Bielarusa», прыватнымі асобамі. І пастаянна працуе над «Людам беларускім». Але жыць у Варшаве з матэрыяльнага боку Міхалу Федароўскаму было вельмі цяжка. Таму, каб знайсці сродкі для існавання, ён прадаваў свае калекцыі варшаўскім бібліяфілам, гандлярам старажытнасцямі, тым, хто цікавіўся антыкварам, быў пасрэднікам у некаторых гандлёвых здзелках. Многія рэчы ён прадаваў вельмі танна, а таксама ахвяраваў музеям, архівам і бібліятэкам Польшчы.

У пачатку 1920-х гадах ён стаў хварэць. А 10 чэрвеня 1923 года Міхала Федароўскага не стала. Яго пахавалі на Павонзкаўскіх могілках у Варшаве. На надмагільнай пліце сябры Варшаўскага навуковага таварыства напісалі: «Міхал Федароўскі, этнограф, аўтар "Люду беларускага". 1853–1923».

**Для даведкі:**

Чацвёрты том «Люду беларускага» выйшаў з друку ў 1935 годзе, ужо пасля смерці Федароўскага. З 28 000 картак-запісаў Федароўскага Чэслаў Пяткевіч — этнограф, даследчык рэчыцкага Палесся — абраў 13 231 нумар. Выданне стала неперавзыдзеным зборнікам беларускіх прыказак і прымавак, фразеалагізмаў. Змешчаныя ў ім тосты і віншаванні, каламбуры і кленічы, загадкі і мянушкі, просьбы і жарцікі, прозвішчы і імёны сялян з розных паветаў (Слонімскі, Ваўкавыскі, Лідскі, Гродзенскі, Сакольскі і інш.) — матэрыялы, якія да Федароўскага амаль не публікаваліся.

Песні са збораў Федароўскага ўвайшлі ў пяты, шосты і восьмы тамы «Люду беларускага», якія выйшлі ў 1958, 1960 і 1981 гадах (сёмы том з'яўляецца дадаткам да пятага і шостага. У ім змешчаны даследаванні пра самога Федароўскага і яго зборы). Туды трапілі 5 036 песень і прыпевак з ацалелага архіва этнографа.



ВЫСТАВА

# ЗАЛАТАЯ КАЛЕКЦЫЯ З ФОНДАЎ БЕЛАРУСКАГА САЮЗА МАСТАКОЎ

Марат ГАРАВЫ

**16 ліпеня ў Мінску ў Палацы мастацтва адкрылася выстава «Залатая калекцыя з фондаў Беларускага саюза мастакоў».**


Аляксандр Кішчанка «Думы аб маці»


Ізраіль Басаў «Вуліца Кірава»

Фонды БСМ з'яўляюцца фундаментальным зборам жывапісу, графікі, скульптуры і дэкаратыўна-ўжытковага мастацтва другой паловы XX стагоддзя. Гэта калекцыя, здольная прадставіць усю шырыню і разнастайнасць нацыянальнага выяўленчага мастацтва, а таксама дапамагчы асэнсаваць, як фармавалася і развівалася мастацкая школа Беларусі.

Унікальнасць і важнасць гэтай выставы ў тым, што глядач зможа ўбачыць найбольш яркія творы беларускага жывапісу, выкананыя, у асноўным, у стылі сацыялістычнага рэалізму. У экспазіцыю ўвайшлі палотны, якія выстаўляліся даволі рэдка, але ёсць сярод іх і тыя, што дэманструюцца ўпершыню.

На выставе прадстаўленыя тэматычныя карціны, партрэты, краявіды і нацюрморты пэндзля Леаніда Шчамялёва, Гаўрылы Вашчанкі, Міколы Залознага, Зоі Літвінавай, Альгерда Малішэўскага, Барыса Аракчэева, Валяр'яны Жолтак, Віталя Цвіркі, Мая Данцыга, Івана Карасёва, Георга Скрыпнічэнкі, Ізраіля Басава, Аляксандра Кішчанкі, Уладзіміра Стальмашонка, Івана Дмухайлы, Антона Бархаткова, Івана Рэя ды іншых вядомых жывапісцаў.

Народны мастак Беларусі Гаўрыла Вашчанка адзначыў, што ўвазе гледачоў прадстаўлены творы 1970–1980-х гадоў. «Я сустрэўся з тымі працамі, якія калісь з сябрамі па сакратарыяту Беларускага саюза мастакоў мы збіралі для будучых пакаленняў. Мне не сорамна за сваіх калег, якія пісалі ў той час, і радасна, што сённяшняе кіраўніцтва творчага аб'яднання вырашыла паказаць гэтую цікавую калекцыю мастакам розных пакаленняў і прыхільнікам жывапісу», — сказаў Гаўрыла Вашчанка.

Старшыня БСМ, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі, прафесар Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Уладзімір Савіч выказаў вялікую падзяку аўтарам жывапісных твораў, у тым ліку і тым, хто сышоў у лепшы свет. Паводле ягоных слоў, такога кшталту выставы (а цяперашняя — ужо другая па ліку) будуць праводзіцца штогод і стануць традыцыйнымі. «Гэта трэба для таго, каб захаваць сувязь паміж мастакамі розных пакаленняў», — сказаў старшыня БСМ. Ён выказаў спадзяванне, што экспазіцыя будзе цікавая маладым мастакам, якія змогуць пазнаёміцца з тэматыкай і стылістыкай сваіх папярэднікаў.

Выстава працуе да 28 ліпеня.



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
Кароль Аляксей Сцяпанавіч

Зарэгістравана Міністэрствам інфармацыі РБ. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК.** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ.** Прыватнае выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне №64 ад 12.01.2007 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА.**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986 38 05, +375 17 268 52 81.
novychas@gmail.com; www.novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет».
г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.

Замова № 851

Падпісана да друку 19.07.2013. 8.00.

Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

(S) — матэрыял падрыхтаваны пры падтрымцы Пасольства Рэспублікі Польшча